# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

## *BYELORUSSIAN THOUGHT*

THE BYELORUSSIAN OUTLOOK
**ON**
SOCIETY, POLITICS, LITERATURE AND ARTS

№ 21-22

**1977-1978**

**НЬЮ-ЁРК** — **САЎТ РЫВЭР**

**Printed by the Byelorussian Press U.A-B R C.**

**ЗЬМЕСТ**






# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

**ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС**

***BYELORUSSIAN THOUGHT***

THE BYELORUSSIAN **OUTLOOK**
ON SOCIETY, POLITICS, **LITERATURE AND** ARTS

Год выд. 18-19 | **1977-1978 гг.** | **№21-22**


**Аўген Калубовіч**

## На крыжовай дарозе

*Прысьвячаю*
*маім сябрам-альтруістым,*
*усім беларусам, якія прайшлі праз жорны савецкіх турмаў, ссылак і канцэнтрацыйных лягероў,*
*і асабліва ПАМЯЦІ ТЫХ, каму не пашчасьціла жывымі стуль выйсьці.*

### Прадмова

Я ўсё жыцьцё адчуваў, што ня споўніў аднаго свайго абавязку: расказаць пра масавую гібель беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерох. Колькі разоў браўся за пяро яшчэ дома, у Менску. Укладаў пляны, рабіў чарнавыя накіды. Ды далей гэтага не пайшоў. Мо ня столькі таму, што пісаць было сьмяртэльна небясьпечна, хаваючыся, а перахоўваць напісанае цяжка. Галоўна — ад сьведамасьці, што друкаваць усёадно няма дзе.

Сваіх нататак аднак я ня зьнішчаў, вывез іх на эміграцыю. Яны цяпер мне шмат дапамаглі, асабліва даты, імёны. Нажаль, частка тых нататак, зробленых на сьвежую памяць па вызваленьні зь лягеру, а таксама ўсе асабістыя турэмныя й лягерныя дакуманты й лісты, у пачатку 2-ой сусьветнай вайны згарэлі ў вагні. Разам зь імі загінулі для ўспамінаў некаторыя імёны й дэталі.

З таго часу мінула ўжо болей за 40 год. Але многія сцэны зь перажытага й бачанага стаяць перада мною й сёньня так сьвежа й ярка, як-бы гэта было толькі ўчора.

(Працяг, пачатак у папярэднім №)

### У ГОМЕЛЬСКІМ ГПУ

Праз паўгадзіны мы спыніліся перад жалезнай брамай, і жаўнеры ўвялі нас на панадворак ГПУ. Тут мы былі разьбітыя на тры групы: дзьве зь іх павялі ў падвал; трэцюю, у якой быў я, зьмясьцілі ў "караульное помещение". (Падвал быў так перапоўнены, што для ўсіх нас там не хапала месца.)

Наша правізарычная камэра (для 8 асобаў) — гэта бакавы пакоік пры ўваходзе ў галоўны будынак ГПУ з панадворка, 2½ на 3½ мэтры, із закратаваным вакном. Уздоўж аднае сьцяны былі зложаныя ў нары 5 зусім голых драўляных тапчаноў. Пры дзьвярах з маленькім ваконцам і кратамі дзень і ноч стаяў вартавы. Тут мы й прасядзелі ўсё сваё сьледзтва.

Рэальна мы ня ўзьнялі зброі супраць савецкае ўлады. Усё нашае "злачынства" — жаданьне змагацца за свабоду беларускага народу. Гвалт і тэрор, якія мы бачылі вакол, штурхалі нас на гэта, натхнялі.

Мы гуртаваліся, тварылі арганізацыю, па-

шыралі яе. Праз адозвы й лёзунгі распаўсюджвалі свае ідэі, фармуляваныя на тайных зборках. Пачалі зьбіраць зброю.

У вадозвах і лёзунгах мы выказвалі нашу ацэну палітычнай сытуацыі Беларусі, заклікалі не падтрымліваць савецкае ўлады, супраціўляцца ейным мерапрыемствам, наагул, будзілі вызвольныя думкі й пачуцьці. Лёзунгі нашыя гучалі так:

*Беларусь стогне пад бізуном Масквы.*

*Калгасы — шлях да новага, камуністычнага прыгону.*

*Савецкая ўлада для селяніна — гэта Котлас і Салаўкі.*

*Сорам і ганьба тым, хто дапамагае "раскулагваць" і гвалтам заганяць у калгас.*

*Савецкая ўлада — не народная, не беларуская.*

*Што ты зрабіў у вабарону свабоды ад гвалтаў савецкае ўлады?*

*Далоў дыктатуру Палютбюро! Свабода Беларусі!*

Мо мы рабілі памылкі. Мо ў нашых (у бальшыні — юначых) уявах над халоднай разважлівасьцю рэалізму пераважаў гарачы ідэйны рамантызм і ўсёўладнае пачуцьцё альтруізму. Ведама: моладзь заўсёды хутчэй запальваецца. Таму ў гісторыі рэвалюцыйнага руху пераважная бальшыня ўсіх нелегальных арганізацыяў і паўставала сярод студэнцтва й моладзі.

Аднак для свае ініцыятывы мы бачылі й рэальныя падставы.

Беларускі народ, асабліва сялянства, якому савецкая ўлада й Камуністычная партыя ў 1929 г. абвесьцілі бязьлітасную вайну, быў даведзены да роспачы, што выклікала ў БССР паўстанчую сытуацыю, паўсюдныя сялянскія бунты. Яны ўзьнімаліся на нашых вачох, а, паводля афіцыйнае статыстыкі, толькі за першыя чатыры месяцы 1930 г. у БССР было "519 кулацкіх выступленьняў" [4]. Гэта былі ня "кулацкія", а агульнасялянскія стыхійныя акты самаабароны ад партыйна-ўрадавага тэрору.

Мы ведалі, што такая-ж сытуацыя на блізкай да нас Украіне; не сумняваліся, што й у іншых рэспубліках СССР. (Ужо будучы ў канцэнтрацыйных лягерох ад саміх удзельнікаў паўстаньняў, спаміж якіх мелі блізкіх сяброў, даведаліся, што ў некаторых нацыянальных рэспубліках СССР нат былі паўстаньні. У 1924 г. — усеагульнае ўзброенае паўстаньне ў Грузіі пад кіраўніцтвам аб'яднанага Камітэту грузінскіх сацыял-дэмакратаў і нацыянал-дэмакратаў. У 1928 г. — у Якуціі. У 1929 — у Бурата-Мангольскай АССР, найбольш жорстка задушанае, із тысячамі расстраляных буратаў і манголаў. У 1931 г. у Вішлаг на паўночным Урале, дзе мы тады адбывалі сваю кару, навезьлі шмат паўстанцаў-казахаў. Паўстаньне ў Казахскай АССР у 1930-31 гг. было, відаць, найбольшае: на падаўленьне яго былі кінутыя ня толькі пяхота й коньніца рэгулярных аддзелаў Чырвонай арміі, як сьведчылі самі паўстанцы, у некаторых выпадках былі ўжытыя танкі й самалёты. Меншыя, лякальныя паўстаньні былі на Кубані, у Асеціі й туркестанскіх рэспубліках.)

Савецкая дзяржаўная бюракратыя ў тым часе ня было яшчэ такая моцная. Тады яна яшчэ ня мела такога магутнага паліцыйнага апарату падаўленьня, які стварыла пазьней. Камуністычная партыя была немнагалікая й насельніцтва не кантралявала, як цяпер, разросшыся ў калясальную дзяржаўную жандармэрыю, аблытаўшую сваёй павуцінай усе каморкі грамады. Тады яшчэ заставалася месца для канспірацыі ад вачэй і вушэй дзяржаўных установаў, для канспірацыйнай дзейнасьці.

Із сёньняшняй пэрспэктывы можна нават цьвердзіць, што ніколі ў часе ад заканчэньня грамадзянскай вайны ў 1918-20 гг. і да сёньня ў СССР ня было такой сытуацыі, як тады, што паняволеныя народы рэальна маглі ўзьняцца на ўсеагульнае паўстаньне супраць маскоўска-бальшавіцкай дыктатуры. СССР у тым часе быў парахавой бочкаю. Здавалася, чыркні запалку, і бочка ўзарвецца; усё ўспыхне, як сухая салома.

Але, каб мець шанс для перамогі, патрэбныя былі дзьве ўмовы. Для гэтага патрэбна была моцная нацыянальна-рэвалюцыйная арганізацыя, падрыхтова, зброя, а таксама падтрымка з боку вонкавага сьвету.

Надзеі на вонкавы сьвет, як хутка выявілася, былі памылкаю. Ён ня толькі не сьпяшаўся падтрымаць імкненьні паняволеных народаў; наадварот, у мамэнце, калі парахавая бочка пачала ўзрывацца, калі СССР трапіў у вялікія эканамічныя цяжкасьці, увогуле, ледзь-ледзь стаяў на сваіх гліняных нагах і з дапамогаю вонкавага сьвету мог разваліцца, — звонку валадаром ягоным прыйшла падтрымка. Хай сабе галоўна маральная, але гэта была падтрымка. Якое было нашае рашчараваньне, калі ўжо ў лягерох мы даведаліся, што якраз у гэтым крытычным для СССР мамэнце ўрад прэзыдэнта ЗША Ф. Рузвэльта працягнуў ім сваю руку — прызнаў СССР і ўстанавіў зь ім дыпляматычныя й гандлёвыя зносіны.

А арганізацыі паўставалі. Мы верылі, што ў

4) Гісторыя БССР, АН БССР, Мінск, т. 3, 1973 г., б. 412.



БССР мы не адзінокія, што, апрача нас, ёсьць іншыя тайныя арганізацыі нашага ці падобнага тыпу, а нат большыя й выдатнейшыя за нашу, пра якія мы тымчасам ня ведаем, як і яны ня ведаюць пра нас.

З публічнага працэсу лістападаўцаў у Менску было ведама пра арганізацыю настаўніка Юр'я Лістапада ў Слуцку ў 1924-26 гг. Пазьней, пераважна ў Менскай турме й па дарозе ў канцэнтрацыйны лягер, мы даведаліся пра некаторыя іншыя, выкрытыя й ліквідаваныя ГПУ, арганізацыі — пра тайны гурток студэнтаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску ў 1927 г. на чале із студэнтам гістарычнага факультэту Міхасём Адзярыхаю, пра гурток студэнта таго-ж унівэрсытэту Астраносава ў 1929 г. Па камэрах хадзілі чуткі, што на Мсьціслаўшчыне ГПУ выкрыла антысавецкую арганізацыю, заснаваную настаўнікам Гукам.

У 1930 г. у беларускім пяхотным палку ў Слуцку ГПУ выкрыла вайсковую арганізацыю. Полк гэты (у вадрозьненьне ад кадравых войск Чырвонай арміі) належыў да г. зв. беларускіх тэрытарыяльных вайсковых фармаваньняў, што засталіся яшчэ ад часоў грамадзянскае вайны й першых гадоў БССР. Падобна іншым такім аддзелам, ягоныя жаўнеры й афіцэры — беларусы. На чале арганізацыі стаяў ротны камандзер П. Люцко, які паходзіў із с. Працавічы Слуцкага раёну. Па сканчэньні Аб'яднанай беларускай вайсковай школы імя ЦВК БССР у Менску ён быў прызначаны на камандзера роты ў гэты полк, рэзыдаваны ў ягоным родным Слуцку й Случчыне. У найбольш разгар прымусовае калектывізацыі й масавых арыштаў і вывазаў сялян у Сібір ён, разам із сваімі вайсковымі сябрамі, уплянаваў узьняць сваю роту ў Слуцку на паўстаньне, спадзяючыся, што да іх далучацца іншыя роты палка й сяляне. Змову аднак хтось зрадзіў. Калі пра гэта стала ведама, П. Люцко й ягоны бліжэйшы сябра, старшына зь ягонае роты, добра ўзброіўшыся, вырашылі перайсьці ў Заходнюю Беларусь. Блізка мяжы іх насьцігла пагоня пагранічнікаў і аддзелу ГПУ. У перастрэлцы П. Люцко быў забіты, а старшына, цяжка паранены, схоплены й пасьля допытаў расстраляны. Лёс рэшты арыштаваных змоўнікаў невядомы. (Хутка пасьля таго як ненадзейныя былі расфармаваныя й тыя беларускія тэрытарыяльныя вайсковыя аддзелы: усе яны былі ўлучаныя ў кадравыя войскі.)

Бязумоўна, арганізацыяў было значна болей, чымся сёньня мы пра іх ведаем. І неабавязкава, што ўсе яны былі выкрытыя ГПУ. Адны зь іх ГПУ выкрывала й ліквідоўвала, другія паўставалі. Мы былі толькі часткаю гэтага працэсу.

На пачатку сьледства (яшчэ па дарозе ў Гомель) мы ўмовіліся казаць: не! Якія-б мэтады допытаў ня ўжываліся, наш адказ павінен быць: не! Няхай яны самі даводзяць нам.

І каля двох тыдняў так і было. ГПУ чакала, што мы "загаворым", а мы маўчалі. Тады ГПУ зьмяніла тактыку: пачало даваць нам факты, усё болей і болей. З гэтага было відаць, што яно мае ў нашым асяродзьдзі інфарматара. Хто ён? Падасланы правакатар ці хтось заламаўся, спалохаўшыся мажлівых кансэквэнцыяў? Із годных паводзінаў сяброў у ГПУ брудны цень ня падаў на нікога. Але сумніву ня было: між намі ёсьць правакатар ці зраднік.

Гэтая акалічнасьць змусіла нас таксама зьмяніць сваю тактыку. Ня было ніякага сэнсу далей адмаўляцца, і нам давялося адказ "не!" замяніць на "так", пацьвердзіць, што арганізацыя была й не запярэчваць фактаў, добра ведамых ГПУ.

Допыты цягнуліся да пачатку ліпеня — штодня, удзень і ўначы. Мы ведалі, на што йшлі, калі тварылі арганізацыю, і што можа нас чакаць у выпадку няўдачы. Таму перад сьледчымі шыі ня гнулі, сваіх учынкаў не шкадавалі. Так трымаўся нават хворы на сэрца найстарэйшы сярод нас і з дасьведчаньнем у рэвалюцыйнай працы з царскіх часоў — Апанас Курыленка. Яшчэ ў 1905 г., будучы чыгуначнікам у Пецярбургу, ён уступіў у РСДРП. Вярнуўшыся дадому, зарганізаваў у Бабчыне сялянскую групу Палескага камітэту РСДРП, кіраваў забастоўкамі падзёншчыкаў у маёнтках [5]. Пазьней рашчараваўся ў сацыялістычным руху, парваў зь ім, а ў часе арышту быў псаломшчыкам Бабчынскай праваслаўнай царквы.

Усім гэтым нашая справа адрозьнівалася ад тысячаў іншых — ад абсалютнай бальшыні, калі не 90% — дзе абвінавачваліся людзі ня толькі ні ў чым не вінаватыя, але зусім нізашто.

8-га ліпеня групамі нас зьвялі ў прасторны пакой на 2-ім паверсе й рассадзілі на крэслах. На даўгім стале, які стаяў перад намі, мы бачылі колькі стосаў (пэўна, нашых, усіх 47) худзейшых і грубейшых "папак" з пэрсанальнымі справамі. Зараз-жа адчыніліся дзьверы, і праз іх усунулася вялічэзная туша заступніка Каравіна — Візагэр. За ім паказаўся Высоц-

5) Факты гэтыя адзначаныя ў БелСЭ (т. 8, 1975 г., б. 47 і т. 3, 1971 г., б. 359), але із пропускам прозьвішча А. Курыленкі.

кі. Яны селі пры стале, і Высоцкі з прынесенай ім машынапіснай кнігі пачаў чытаць абвінаваўчае заключэньне.

Чытаў доўга. Сьпярша агульную частку, а потым пра кожнага з нас упаасобку. Нам інкрымінаваліся "злачынствы", прадугледжаныя 72 і 76 артыкуламі Крымінальнага Кодэксу БССР (арт. 72 абвінавачваў за антысавецкую агітацыю й прапаганду, 76 — за ўдзел у антысавецкай арганізацыі).

Уражала й абурала слова "крымінальны", якое ў дачыненьні да нас у розных склонах паўтаралася ў мове "заключения". (У юрыдычнай тэрміналёгіі СССР няма выразаў "палітычнае злачынства", "палітычны вязень". Тут усё — толькі "крымінальнае" і судзіцца адзіным карным кодэксам — "крымінальным".)

Урэшце, Высоцкі скончыў чытаць.

— Вопросы есть? — зьвярнуўся ён да нас.

— Калі будзе суд? — запытаўся Я. Кузьменка.

— Суд?.. — быў заскочаны Высоцкі. — Еще неизвестно. — Зрабіў кіслую міну, павярнуў галаву да Візагэра й нявыразна дадаў: — Это вовсе необязательно. Приговор может быть и без суда.

Тады паадным нас выклікалі да стала падпісацца на адумысловым аркушы паперы із кароткім тэкстам "Обвинительное заключение мне об'явлено". На рукі нам нічога ня далі й нат прачытаць самім ні гэтага агульнага "заключения", ні закончаных персанальных спраў. Ужо пазьней, у турме, мы бачылі, як кожны крыміналісты загадзя перад судом атрымліваў на рукі ў камэру поўны машынапісны тэст абвінавачаньня, каб мець лепшыя магчымасьці падрыхтавацца да абароны, узяць сабе адваката, радзіцца зь ім. Але такі прывілей мелі вылучна крыміналістыя. Нас каэраў [6], права гэтага пазбавілі. Ды мы й суда, відаць, ня будзем мець. Нам і адвакат не належыць. Усё будзе зроблена завочна: мы ня будзем бачыць сваіх судзьдзяў, а судзьдзі — нас.

#### ПЕРАВОД У ТУРМУ

На абедзе таго самага дня ўсю нашу камэру вывелі на панадворак, пастроілі й звычайным канвойным маршам пагналі ў турму.

Ад зыркасьці й празрыстасьці сьвятла калола ў вачох. П'яныя ад асалоды сьвежага паветра, шырыні прастору й неба, райскага выгляду садоў, ішлі мы зноў бакавымі, амаль пустымі вуліцамі, пакуль ня выйшлі на галоўную — Савецкую вуліцу ў самым ейным канцы. Тут каля апошняга двара, перад полем лётнішча, спыніліся.

Старшы канвою падыйшоў да дзьвярэй брамы, пацягнуў за ручку з дратамі. Пачуўся прарэзьлівы звон, у дзьвярах адчынілася фортка, за кратамі якой зьявіўся твар прыбрамніка. Па кароткіх перамовах паміж імі брама была адамкнутая, і нас увялі на турэмны двор.

Нашаму зроку ўпоўні адкрыліся белыя двухпавярховыя муры з двума радамі чорных закратаваных ваконных дзірак. Вакол турмы й ейнага двара — высокі, такі-ж белы, мур, а на ім (насупраць двара й сьцяны з адзіночнымі, "сьмяротнымі" камэрамі) — вежа із жаўнерам вонкавай варты, з стрэльбаю й тэлефонам.

Нас правялі праз вонкавыя дзьверы турмы. Наглядчык ніжняга калідору із зьвязкаю вялікіх і цяжкіх ключоў на жалезным абручы адамкнуў дзьверы камэры №8 і ўпусьціў нас у сярэдзіну. Ужо на турэмным двары, а яшчэ мацней у калідоры ў нос ударыла вострым пахам карболкі із уборных, а ў камэры да гэтага далучыўся кіслы й затхлы смурод ад парашы. Цяпер, улетку, яшчэ й задуха ад гарачыні.

Камэра №8 нічым асаблівым не адрозьнівалася ад іншых. Паўцёмная (з адным вакном), невялікая, з голымі нарамі й мноствам клапоў і блох. Тут мы засталі 6 сваіх сяброў, ад якіх даведаліся, што ўсіх нашых, разам зь імі, прыгналі сюды за гадзіну перад намі й разьмясьцілі ў двух іншых камэрах.

Як і ў ГПУ, у турме нам было забаронена мець мэталёвыя й шкляныя рэчы — нож, брытву, нажніцы, іголку, цьвік, шклянку... таксама — вяроўку, шпагат... Не дазвалялі ні лістоў, ні спатканьняў, ні перадачаў. Ніразу мы ня мелі ні лазьні, ні дэзынфэкцыі вопраткі ці камэры, ні мыцьця бялізны. Адно турэмны цырульнік (самы ведамы ў турме чалавек — Невядомскі) агаліў нашыя галовы.

На сьцяне пры дзьвярах, на самым пачэсным месцы — над парашаю, у рамцы пад шклом віселі правілы турэмнага рэжыму. Амаль кожны артыкул у іх пачынаўся словамі "Воспрещается", "Возбраняется", "Не допускается", "Преследуется", "Карается" й г.д. Дазвалялася толькі адно: "беспрекословное и точное исполнение всех распоряжений" турэмнай адміністрацыі.

У турме сядзелі дзьве катэгорыі вязьняў: засуджаныя судом на невялікі (менш за 2 гады) тэрмін крыміналістыя (яны працавалі ў розных майстэрнях турмы; удзень дзьверы іхных камэраў адамкнутыя, і яны могуць пераходзіць із камэры ў камэру; кожны зь іх мае

6) Г. зн. — "контррэвалюцыянэраў".



пасьцель — коўдру й набітыя саломаю матрас і падушку) і падсьледчыя, якія чакаюць на суд (ці прысуд) або засуджаныя на тэрміны вышэй 2-ух год, якія чакаюць на этап — за рэдкімі выключэньнямі палітычныя (яны ня маюць ніякае пасьцелі, і камэры іхныя 24 гадзіны ў суткі пад замком). Першых у турме няшмат, і ў камэрах іхных вальней; другіх — ад 60 да 75% усіх вязьняў, і камэры іхныя набітыя бітком, не зважаючы на тое, што па прысудзе іх хутка адпраўляюць на этап.

#### АРЫШТЫ, АРЫШТЫ...

*"Провести беспощадный массовый террор против кулаков, попов и белогвардейцев; сомнительных запереть в концентрационный лагерь..."*

Дырэктыва Леніна 9.VIII. 1918 г. (В. И. Ленин. Полное собрание сочинений, изд. 5, Москва, 1958-65 гг., т. 50, стр. стр. 143-144.)

Апрача шасьцёх сваіх, у камэры №8 мы засталі яшчэ аднаго вязьня, незнаёмага. Ён паведаміў нам, што перад нашым пераводам сюды гэта была "блатная" камэра. Відаць, каб звольніць яе для нас, раніцаю яе ўсю "расфармавалі", параскідаўшы па іншых камэрах. Толькі яму яшчэ не знайшлі месца, і ён да наступнае раніцы быў з намі.

Высокі. Худы. Босы. На ім абдзёртая вопратка зь ненатуральна кароткімі рукавамі й калошамі. Выглядаў на дзядзьку сярэдняга веку зь інтэлігэнтным і пачуцьцёвым абліччам, аброслым рыжаватай шэрсьцю. Гэта быў айцец Аляксандар Табанькоў із Рэчыцкага раёну. Калі мы разнаёміліся, ён расказаў нам сваю гісторыю.

На пачатку 1930 г. у БССР ішла акцыя масавага зачыненьня цэркваў. Тады была зачыненая й ягоная царква, а сам ён, падобна іншым сьвятарам, арыштаваны й прывезены ў Гомель. Сьпярша сядзеў у Ільлінскай царкве, бітком набітай амаль вылучна сялянамі. Вялікая царква, ад сьцяны да сьцяны, аўтар, даўгі прытвор із зашклёнай з трох бакоў вэрандай, а часам і пад адкрытым небам цьвінтар, абнесены каменна-жалезнай агарожай — усё было запоўнена арыштаванымі.

Аднойчы, хаваючыся ад канваіраў (яны пільнавалі іх звонку царквы), на просьбу сялянаў, ён адслужыў для іх тайны малебен. Наступнае раніцы быў пераведзены ў камэру №8 турмы. Тут над ім доўга зьдзекаваліся блатныя.

— Парашу зь нячыстотамі ставілі на нары й патрабавалі, каб я каля яе служыў для іх літургію. За адмову — штурхалі, насьміхаліся, блюзьнерылі. Адзін зь іх ускакваў на маю сьпіну й крычаў: "А ну, баця, пакажы нам, як Хрыстос на асьле ўяжджаў у Ерусалім". Ён тузаў мяне, біў, а ўся блатная брація рагатала: "Го-го-го!.. І-га-га!"

Уначы, калі ён спаў, хтось із іх закладаў яму паміж пальцаў ног паперкі й падпальваў іх. Агонь прыпякаў пальцы, ступні ног; ён прачынаўся, торгаў імі. Гэта звалася ў іх "посадить на велосипед".

— Вы, пэўна, зьдзівіліся, што я босы й на мне кашуля й парткі такога малога памеру. Блатныя гулялі ў карты на мае чаравікі й вопратку. Хто зь іх праігрываў, адбіраў усё гэта ў мяне, каб аддаць выйграўшаму. А мне наўзамен далі гэтае рызьзё.

Канчар запытаўся:

— Скажэце, калі ласка, колькі дагэтуль зачынена ў БССР праваслаўных цэркваў?

а. Аляксандар адказаў не адразу:

— Дакладных лікаў я ня маю. Але так, як я бачу, думаю, што блізу ўсе [7]. Таксама й манастыры.

— А колькі? Вы не маглі-б назваць лічбы?

— У Менскай Кансісторыі лічылася ўсіх болей за 1.600 парафіяў.

— А колькі, паводля Вас, арыштавана сьвятароў?

— Сьвятароў, як вы, напэўна, самі ведаеце, арыштоўвалі разам із закрыцьцём цэркваў. Іх было болей, чымся цэркваў, і рэдка каго зь іх пакідалі. У кожным разе, я думаю, арыштавалі іх дагэтуль ня меней за 1.500. А наш япіскап Мазырскі, Ян (Пашын), царства яму нябеснае (а. Аляксандар перахрысьціўся), забраны быў яшчэ ў 1927 г., сасланы на Салаўкі, дзе ён у тым-жа годзе й аддаў сваю пакутніцкую душу Богу.

Наглядчык нашага калідору адчыніў дзьверы камэры, і мы ўбачылі юнака із скрынкаю кніг. Турэмны бібліятэкар рабіў свой абход камэраў. Ня ведаўшы, што камэру №8 "расфармавалі", ён хацеў ізноў прапанаваць блатным кнігі. а. Аляксандру кнігі былі забароненыя, а нам ён адказаў:

— Я яшчэ ня ведаю, ці кнігі вам дазволеныя. Ня маю "указаний" ад "памнача".

Калі дзьверы зачыніліся, а. Аляксандар заўважыў, што ў былой турэмнай царкве цяпер клюб зь бібліятэкаю. Там новы "душпастыр", "памнач" [8] Соркін, праводзіць з крыміналістымі "политзанятия". Яму дапамагае бібліятэкар,

7) Цяпер ведама, што толькі паадзіночныя зь іх датрымаліся да 1937 г.

8) Памочнік начальніка турмы "по воспитательной части".

пра якога а. Аляксандар чуў яшчэ дома, перад сваім арыштам. Бібліятэкар тады жыў у Рэчыцы й быў сакратаром камсамолу. Пасьля таго, як адна (цяжарная) камсамолка скончыла самагубствам, кінуўшыся ў Дняпро, выкрылася, што сакратар сваіх камсамолак гвалціў, за што й быў засуджаны на год турмы.

Праз дзень да нас у камэру прывялі селяніна. У руках ён трымаў торбу з "гумном"[9].

Як і а. Аляксандра, яго прывялі зь Ільлінскае царквы. За што ён сядзіць, селянін ня ведае: дагэтуль яго ні разу ня выклікалі на допыт. Арыштаваны ён быў у сваім сяле Малая Церабееўка Лоеўскага раёну. У ягоным сяле ніводзін гаспадар не пайшоў у калгас. За гэта із 32 двароў 30 было "раскулачана", а ў тым і ён. Усе сем'і "раскулачаных" вывезеныя на ссылку ў Котлас, а мужчынаў у большыні пасадзілі ў раённую турму. Неўзабаве, разам зь іншымі, іх прывялі на Лоеўскую прыстань, загналі ў сярэдзіну баржы, наладаванай бульбаю. Так, седзячы ці лежачы на бульбе, буксірам па р. Сож іх падвезьлі пад самую царкву, разьмешчаную на беразе ракі. Які лёс іхных сем'яў, ім нічога ня ведама.

Селянін быў гасьцінны й пачаў частаваць нас астачамі сала, абгорнутага ў газэту. Таму, што гэта была першая газэта ад дня нашага арышту, яе мы выпрасілі ў яго й пачалі дасьледаваць. Ні загалоўка газэты, ні даты на ёй мы не знайшлі (яны былі адарваныя). Паводля друкарскіх асаблівасьцяў, яна нагадвала "Зьвязду". Большую частку кавалка газэты займаў артыкул ці прамова на якімсьці зьезьдзе. (Тады мы ня ведалі, што ў часе 30. V. — 12. VI. у Менску адбыўся XIII зьезд КП(б)Б.) Із прачытанага нас найбольш зацікавіла крытыка дзейнасьці былога наркома земляробства БССР З. Прышчэпава. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён, "кулацкі ідэоляг", із 790.000 сялянскіх гаспадарак у БССР каля 20% перавёў на хутары. Дзейнасьць гэтая тут кваліфікавалася "контррэвалюцыйнай", "шкодніцкай", з чаго мы зрабілі прыпушчэньне, што папулярны сярод беларускага сялянства нарком мог быць ужо за кратамі.

Масавыя арышты сялянаў, перапоўненыя імі турмы, колькасьць "раскулачаных" у Малой Церабееўцы нас моцна ўразілі. Зьявілася ідэя паспрабаваць вылічыць, колькі-ж прыблізна сялян у БССР ужо "раскулачана", саслана на ссылку ў Сібір, пасаджана ў турму ці канцэнтрацыйныя лягеры.

Урадавай статыстыкі "раскулачаных" ня было[10]. Дзеля таго мы пачалі разважаць так. У Хойніцкім, Брагінскім, Лоеўскім і суседніх раёнах беларускага Палесься — усюды, дзе мы бачылі на свае вочы — у кожным сяле "раскулачвалі" кожны 5-15-ты двор, ці ў сярэднім ня меней за 10% двароў[11]. Мы ўзялі таксама на ўвагу й 20% хутароў, якія шмат дзе "раскулачваліся" ўсе пагалоўна, бо хутар, паводля камуністычных паняцьцяў — гэта-ж і ёсьць "кулацкая" гаспадарка. А колькі ў БССР было Малых Церабеевак, дзе "раскулачвалі" амаль усё сяло?[12]

Канкрэтна мы ведалі, што із Хойніцкага раёну на Котлас увосень 1929 г. і раньняй вясною 1930 г. адыйшлі 2 эшалёны "раскулачаных". У кожным эшалёне 30 таварных вагонаў, а ў вагон із рэчамі ўціскалі па 40 асобаў. 1.200 у вадным эшалёне, 2.400 у двух. (Характэрная дэталь: у другім эшалёне былі бацькі загадчыка Хойніцкага раённага аддзелу на-

9) "Гумно" — торба, кош ці штосьць іншае з прадуктамі.

10) Яе няма й цяпер. Ленін забараняў уяўняць лічбовыя дадзеныя бальшавіцкага тэрору. Гэтак, у сувязі із правядзеньнем у жыцьцё дэкрэту 22. II. 1922 г. аб канфіскацыі царкоўных і манастырскіх каштоўнасьцяў ды мажлівым супрацівам гэтаму з боку сьвятароў і вернікаў 20. III 1922 г. ён улажыў для сяброў Палітбюро "совершенно секретный" цыркуляр, у якім патрабаваў пры канфіскацыі ўва ўсіх 48 губэрнях савецкай імпэрыі распачаць "решительную борьбу против реакционного духовенства, сопровождая эту борьбу самыми жестокими мерами" Аднак "По ликвидации этих (врагов) сообщить Политбюро **только устно** о результатах, касающихся возможно большого числа казней... **Абсолютно запрещаются** при этом **письменные** доклады и всякие сообщения". (Фотакопія цыркуляру апублікаваная ў заходня-нямецкай газэце Rheinischer Merkur, №39 за 21. IX. 1976 г.) Таму, калі часам пра гэта й даюцца якіясь лікі, верыць ім нельга: яны сьведама сфальшаваныя.

У "Гісторыі БССР" (АН БССР, т. 3, Мінск, 1973 г.) цьвердзіцца, што да траўня месяца 1930 г. у БССР было "раскулачана" быццам-бы ўсяго 15.629 гаспадарак (б. 414). Можна сказаць, што й гэта жахлівы лік: у 15.629 гаспадарках было болей за 78.000 ні ў чым нявінных людзей — бацькоў, дзяцей і старых. (Параўнайце: пры жорсткім падаўленьні паўстаньня 1863-64 гг. царскімі ўладамі пакараных паўстанцаў у Беларусі й Літве было 18.507.) У запраўднасьці-ж было шмат горай.

11) Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 14. III. 1930 г. прызнае, што "в некоторых районах **процент раскулаченых доходит до 15**" (падкрэсьленьне нашае — АК) — КПСС в резолюциях и решениях с'ездов, конференций и пленумов ЦК, изд. 7, ч. II, 1953 г., б. 549.

12) Цяпер Малой Церабееўкі няма ні на картах БССР, ні ў апісаньнях населеных пунктаў у Беларускай савецкай энцыкляпэдыі.



роднай асьветы Караткевіча, які ня змог выратаваць іх ад ссылкі. Ён прыехаў на станцыю Хойнікі разьвітацца з бацькамі. І, калі выскачыў з вагону, у які яны сядзелі, зламаў нагу, пасьля чаго быў яшчэ звольнены й з працы за... "сувязь з кулакамі".)

Калі такія-ж эшалёны йшлі із усіх 101 раёнаў БССР (у чым ніхто не сумняваўся), лічба "раскулачаных" да раньняе вясны 1930 г. мусіла станавіць болей за 240.000. А акцыя "раскулачваньня" была толькі ў самым разгары.

Цяпер з газэтнае публікацыі мы даведаліся, што ў БССР перад пачаткам калектывізацыі мелася 790.000 двароў. 10% "раскулачаных" зь іх — 79.000 двароў. Мы памножылі іх на 5 (у сялянскай сям'і ў сярэднім было ня меней 5 асобаў), гэта дала нам лічбу 395.000.

Абагульняючы свае вылічэньні, мы прыйшлі да высновы, што 400.000 асобаў "раскулачаных" у БССР к таму часу — мінімальная[13]. Яна сьведчыла аб тым, што ў хвалі масавых арыштаў 1929-30 гг. найбольш пацярпелі сяляне. Выглядала нават, што гэта была вайна бальшавікоў супраць сялянства, каб зламаць яму хрыбет, тэрорам спаралізаваць супраціў ды прымусам загнаць у калгасы прыгон. Для асягненьня такое мэты ўжываліся любыя сродкі гвалту й беззаконьня.

Царскіх турмаў не хапала. У камэры напіхалі людзей у шмат разоў болей, чым дазваляла царская норма. А новых, сацыялістычных, турмаў заплянавана было малавата. У самой сталіцы БССР, Менску, дадаткова да царскае турмы, у цэнтры места, пры вуліцы Урыцкага, да пачатку арыштаў 1929-30 гг. за вялізарным гмахам ГПУ із турэмнымі падваламі пабудавана новая, г. зв. "нутраная" турма ці "амэрыканка", спраектаваная на ўзор турмы "самай капіталістычнай краіны ў сьвеце" — амэрыканскай. Дзеля таго-ж, што маштабы арыштаў далёка апярэджвалі плянабудаўніцтва, памылкі сацыялістычнага пляна ваньня даводзілася выпраўляць "на хаду", прыстасоўваючы пад турмы (фактычна без аніякага прыстасаваньня) кожную "мажлівую" "жылплошчу" — цэрквы, манастыры, чыгуначныя склады й г. д.

Было па "адбоі", і мы спрабавалі заснуць.

Ад уражаньняў апошніх дзён з памяці ўсплылі літаратурныя сцэны царскіх часоў, як у Сібір гналі на катаргу. Мо й тых "партыяў" "калоднікаў" было нямала. Я заплюшчыў вочы, і мне здалося, што вось я бачу, як яны йдуць, скутыя ланцугамі, уздымаюць дарожны пыл... А цяпер? Цяпер па крыжовай дарозе йдуць ня "партыі". Што такое "партыя"? Гэта-ж усяго адзін вагон! Цяпер ідуць цэлыя эшалёны вагонаў. Эшалён за эшалёнам. Густым ланцугом ад самае Беларусі да Сібіры.

Ня ведаю, як доўга я думаў і драмаў, калі пачуў побач сябе валтузьню й галасы. Мае сябры ўжо зачалі вайну з клапамі. Блохі й клапы не давалі нам супакою — ні ўдзень, ні ўначы. Асабліва яны атакавалі нас, калі мы клаліся спаць. Жалілі, бы пчолы. І мы мусілі зь імі ваяваць. Вытрасаць із свае вопраткі, лазіць па нарах і пад нарамі, выпорваць іх із шчылінаў, біць, паліць запалкамі...

Мы так былі заняліся клапамі, што амаль не заўважылі, як адчыніліся дзьверы камэры, і парог пераступіў новы незнаёмец. Яго прывялі да нас пасьля таго, як яму абвесьцілі, што ён "памілаваны".

Гэта быў не чалавек, а здань — так ён быў зьнішчаны фізычна й духова! Глыбака запалымі вачыма на нас глядзеў худы зьняможаны твар. Рукі ягоныя дрыжалі. Ад хваляваньня ён ня мог вымавіць ні свайго імя, ні прозьвішча. Толькі назаўтра раніцою ён растлумачыў нам, што быў засуджаны на кару сьмерці й каля месяца ў вадзіночцы №22 чакаў расстрэлу.

— Учора, калі мяне вялі із камэры ў канцылярыю, я думаў, што вядуць на расстрэл. Ішоў спакойна. Зжыўся ўжо з думкаю сьмерці. А там вычыталі, што я... памілаваны. І мяне пачало трэсьці.

Паходзіў бядак з Камарынскага раёну. Не хацеў ісьці ў калгас, уцякаў з дому й ўцёкі ў Заходнюю Беларусь. На мяжы яго затрымалі пагранічнікі, прывезьлі ў Мазыр, а стуль у Гомель. Засуджаны быў (бяз суда) як... "польскі шпіён".

Яшчэ й таго дня ён не супакоіўся да канца. Калі прынесьлі абед, у яго ўсё яшчэ дрыжэлі рукі, і ён, як ні спрабаваў, ня мог есьці лыжкаю. Адлажыў яе на бок. Аберуч узяў міску й пачаў піць зь яе баланду. Міска білася аб ягоныя зубы.

13) Да канца 1933 г., калі акцыя "раскулачваньня" ў асноўным закончылася, лічба гэтая значна пабольшылася, а ў 1940-41 гг. да яе далучыліся "раскулачаныя" ў Заходняй Беларусі. 16-га жніўня 1942 г. у гутарцы з Чэрчылем у Крамлі Сталін назваў агульную для ўсяго СССР лічбу 10.000.000 "кулакоў", зь якіх у працягу 4-ох год вялікая частка (great bulk) была зьнішчаная, а рэшта — сасланая ў Сібір (Winston S. Churchill. The Second World War, v. IV, Boston, 1950, бб. 498-499). трэба думаць, што Сталін не пераўвялічыў названае ім лічбы; хутчэй — наадварот: у ягоным інтарэсе было пераўменшыць яе.

Па абедзе яго й дзядзьку з Малой Церабееўкі выклікалі на этап.

Мы засталіся самі.

Рабіць ня было чаго. Чытаць не маглі: нам не давалі ні газэт, ні часапісаў, ні кніг. Я прапанаваў:

— Давайце ўкладзем новую Канстытуцыю БССР, бо дзеючая не адказвае рэальнасьці.

Канстытуцыйнай камісіі не выбіралі. Вырашылі ўкладаць усёй камэрай. Укладаць вусна, як твор вуснай народнай творчасьці, бо-ж алавіка й паперы ў камэру нам таксама не дазваляюць.

Некаторыя формулы для канстытуцыі ўжо былі ведамыя "на волі", і іх трэба было толькі дастасаваць да нашае мэты. Дні два-тры мы спрачаліся, дыскутавалі, пакуль канчальна не адрэдагавалі тэксту. Падаю яго тут так, як ён захаваўся ў маёй памяці.

**КАНСТЫТУЦЫЯ БССР**

**усенародна прынятая камэрай № 8 Гомельскай турмы**

**15. VII. 1930 г.**

**Разьдзел I. Назоў дзяржавы**

1. Дзяржава мае назоў БССР, ці поўнасьцю — Будуйце Самі Сваё Рабства.

**Разьдзел II. Грамадзянства БССР**

2. Ганаровае права мець грамадзянства БССР належыць двум катэгорыям ейных жыхароў:

а) тым, хто ўжо арыштаваны; і

б) тым, хто будзе арыштаваны.

3. Грамадзянства БССР прыслугоўваецца таксама й тым, хто, хоць і ня мае гонару належыць да менаваных двух катэгорыяў, а нават і да сталых жыхароў БССР, але хто над імі (жыхарамі) гераічна й цьвёрдакаменна стаіць.

**Разьдзел III. Свабоды й правы грамадзяніна БССР**

4. Шчасьлівым грамадзянам БССР даюцца такія свабоды й правы, якія толькі можа выпрацаваць самае свабоднае, самае прагрэсіўнае грамадзтва й да якіх (свабодаў і правоў) яшчэ ня здольныя былі дадумацца нідзе ўва ўсім сьвеце.

5. У поўнай адпаведнасьці із сказаным грамадзянам БССР дэкляруюцца наступныя свабоды:

а) ня думай (за цябе думае дарагая Масква);

б) калі ўжо падумаў — нікому пра гэта не кажы;

в) калі сказаў — ня сьмей пісаць і публікаваць;

г) калі-ж апублікаваў — зараз-жа адмоўся й асудзі;

д) а на ўсялякі выпадак падрыхтуй торбу сухароў.

6. Да гэтых свабодаў грамадзянам БССР дзяржава ўрачыста гварантуе:

а) права на працу — у вынайдзеных Леніным і Сталіным для росквіту сацыялістычнага грамадзтва канцэнтрацыйных лягерох;

б) права на адпачынак — у спэцыяльна абсталяваных для таго дамох адпачынку, якія капіталістычная прапаганда называе турмамі; і

в) права на сьмерць — ад кулі ў патыліцу ці ад галоднай і катаржнай працы.

**Разьдзел IV. Органы вярхоўнай улады БССР**

7. Вярхоўным органам улады БССР, які накіроўвае ўсё жыцьцё незалежнай ад беларускага народу рэспублікі, зьяўляецца ОГПУ, ці поўнасьцю — О, Госпадзі, Памяні Усопшых!

Не пасьпелі мы належна адсьвяткаваць прыняцьця канстытуцыі, як таго-ж 15-га ліпеня ў камэру №8 зьявіўся невядомы нам перад тым афіцэр ГПУ. З аркуша паперы ён прачытаў уголас машынапісны тэкст із двух сказаў і прапанаваў нам падпісацца пад ім. У тэксьце паведамлялася, што справа нашая із ОГПУ пры СНК БССР перададзеная ў ОГПУ пры СНК СССР, у чыім веданьні адгэтуль мы й знаходзімся. Разам з тым, нумарацыя артыкулаў нашага абвінавачаньня — 72 і 76 КК БССР — аўтаматычна замененая на нумарацыю артыкулаў КК РСФСР — 58, пп. 10,11. Так на сканчэньні сьледзтва скончылася й сувэрэннасьць БССР: судзіць і караць нас БССР перадала ўжо іншай дзяржаве.

*(Працяг будзе)*





*А. Саковіг*

# ПАМІЖ СЦЫЛАЙ І ХАРЫБДАЙ

**Аповесьць**

## 1

У той непагодны сьнежаньскі вечар яны ўсе ўжо паклаліся спаць, калі Ганна пачула ціхі стук у дзьверы з калідору. Яна накінула на сябе шляфрок і выйшла ў пярэдні пакой. Запаліла на стале сьвечку. Сьвятло сьвечкі выхапіла зь цемені ейны маладые схуднелы твар, на якім адно блішчэлі вочы, цьмяна асьвятліла невялікі зь белымі голымі сьценамі пакой, пліту ў куце ды пасярэдзіне нічым не засланы стол з параю лаваў каля яго.

— Хто тут? — запыталася Ганна.

Ніхто не адгукнуўся.

— Wer ist da? — паўтарыла пытаньне Ганна панямецку.

— Отто Вэбэр.

Сюды, пад Мядынь, з раньняе восені прыйшлі й сталі немцы. Сэржант Отта Вэбэр — шофэр. У яго ў Нямеччыне вялікая сям'я. Отта любіць дзеці. Для малога Ганьнінага хлопчыка ў яго часта ёсьць цукерка. Ёсьць і спачуваньне да людзей, што цярпяць ад вайны. Ганна ўдзячная яму за добрыя адносіны. Але чаму сёньня ён прыйшоў так позна?

Ганна адчыніла дзьверы.

— Я не хацеў-бы вас турбаваць у такі позьні час, фраў Зяневіч, але я мушу папярэдзіць вас... — сказаў Отта.

Нават у слабым мігаючым сьвятле ад сьвечкі можна было бачыць, што твар у Вэбэра заклапочаны. У вайну, калі вакол шалее гвалт і сьмерць, усё насьцярожвае, палохае. У Ганны ад страху захапіла дыханьне. Яна стаяла моўчкі, не знаходзячы ў сабе голасу, каб запрасіць яго зайсьці ў пакой ці спытацца, што здарылася.

— Калі вы хочаце, я магу вас із вашым сынам адвезьці далей ад фронту...

— Куды?

— У Смаленск.

— Толькі мяне із сынам? А маю маці? Сям'ю мае сястры?

— Я маю дазвол на дзьве асобы.

— Калі вы едзеце?

— Я не магу дакладна вам сказаць.

У Мядыні Ганна ня дома. Пра гэта яна не як расказала Отта. Бедавала, што не змагла вярнуцца ў Беларусь, адкуль прыехала за колькі дзён да пачатку вайны на паховіны бацькі.

— Я паеду, — сказала яна, хоць сама й ня была пэўнай, як ёй быць.

— Тады зьбірайцеся. Памятайце: вы павінны быць гатовай у дарогу кожны момант.

— Добра, — сказала Ганна.

Вэбэр пайшоў. Ганна заклала на крук дзьверы, патушыла сьвечку. Ціха, каб не пабудзіць малога Лявончыка й маці, вярнулася ў спальню.

Яна сказала, што паедзе. Ці ехаць? Тут, апрача маці, старэйшай сястры Арыны, ейны муж Васіль і трох іхных дзяцей. Хвораму бацьку пасьля пяцігадовага засланьня ў Валагду на Беларусь вярнуцца не дазволілі. Васіль — — аграном. Гэта ён пастараўся ўладзіць цесьця за рахункавода ў сваім саўгасе. Здавалася-б, яна, Ганна, павінна заставацца з сваімі, не пакідаць іх у нялёгкай сытуацыі: яна адна ў сям'і гаворыць па-нямецку.

Два месяцы таму яны ўсёй сям'ёю прабавалі на кані з возам рушыць на Беларусь. На дарозе, кілямэтраў 15 ад саўгасу, іх перанялі нямецкія жандары. Патрабавалі паказаць пропуск. Пропуска ня было. Ганна тлумачыла жандармам, што яны вяртаюцца на бацькаўшчыну, што швагер —- не вайсковец, а аграном. Не дапамагло. Ім загадалі ехаць назад у саўгас. Добра, што не забралі з сабою Васіля. Праўда, жандары пару разоў тузанулі яго ды памахалі перад ягоным носам кулаком.

Хваляваньне адганяла ад Ганны сон. Што рабіць? Яна — жонка палітычнага вязьня. За гады бяз мужа яна стамілася жыць насьцярожанай, стамілася ад сьлёзаў. У пачатку вайны на якісь момант будучыня для яе засьвяцілася надзеяй. Ёй здавалася, што жорсткі сьвет, які панаваў і душыў у людзей волю й радасьць да жыцьця, зьнікне. Але вайна вельмі хутка прынесла новыя жахі, новыя турботы, новыя пакуты. І, як у нядаўным мінулым, таму, што рабілася навакол, Ганьне цяжка было знайсьці апраўданьне.

Калісьці, у хвіліны гора ці небясьпекі, яна

знаходзіла параду ў свайго мужа. “Конрад, што рабіць? — пыталася яна й цяпер, угледаючыся ў цемень, нібы верыла, што недзе, на Калыме, ён адчуе ейны неспакой, ейную разгубленасьць, дапаможа прыняць пастанову правільную, неабходную... Адказу ня было... Яе мацней ахоплівала роспач, і будучыня выдавалася змрочнай і пагрозьлівай, як цемень хмурнае сьнежаньскае начы, што панавала за вакном.

Ганну разлучылі з Конрадам 8-га сакавіка 1937 году, у дзень сьвята жанчыны. Зрабілі ёй падарунак. Тым днём, пасьля працы ў Фізыка-тэхнічным інстытуце, Конрад прынёс білеты ў тэатар. Ён жартаўліва запэўняў Ганну, што глыбока пераняты ўрачыстасьцю Жаночага дня, набыў для яе білеты. Ды яна не сумнявалася, што білеты яму далі на працы, як ужо давалі й перад тым.

Радаснымі паехалі яны ў тэатар. Але там на іх чакала няпрыемнасьць. У наступным радзе партэра, за іхнымі сьпінамі, занялі месца два афіцэры НКВД. Ганна занепакоілася: не вялікая прыемнасьць увесь вечар думаць пра кожнае сказанае слова, пра кожны рух. Глянула на мужа, хацела паказаць яму вачыма на небясьпечных суседзяў. Ён-жа, захоплены ігрою на сцэне, толькі лагодна ўсьміхнуўся да яе.

У антракце яны пайшлі прайсьціся ў фаэ.

— Што гэта ты пасумнела? — зацікавіўся Конрад.

— Хіба ты не заўважыў двух за нашымі сьпінамі? — адказала яна.

— Ці варта зьвяртаць увагу на якіхсьці двух, псаваць прыемны вечар?

— Я кажу пра двух НКВДыстых, што сядзяць за намі ў наступным радзе.

— За намі? — зьдзівіўся ён.

— Няўжо ты ня бачыў іх?

— Я не зьвяртаў на іх увагі.

“У часе, калі кожнае начы кагосьць арыштоўваюць, із суседзяў ці знаёмых забіраюць у НКВД, ён не заўважыў. А мо ня хоча заўважаць?” — гатова была дакарыць Ганна мужа. Не пасьпела, бо ў той-жа момант ізноў убачыла “тых двох”: яны ішлі за імі сьледам і ў фаэ.

Пасьля спэктаклю, у дарозе да трамвайнага перапынку, яна сказала:

— Мне сёньня сапсавалі вечар гэтыя два, што неадступна маячылі за вамі.

— Гэтыя два? Кінь думаць. Не мароч сабе імі галавы. Хутчэй за ўсё яны, як і мы, атрымалі білеты ў тэатар. А хадзілі за намі ў фаэ? Відаць, любяць прыгожых кабет, і ты ім спадабалася.

Ён жартаваў, і ягоныя ласкавыя карыя вочы зіхацелі супакоем і радасьцю.

— У жыцьці мяне нішто не палохае так моцна, як гэтая праклятая ўстанова, — сказала Ганна.

— Гэта комплекс страху ў цябе зь дзіцячых гадоў.

— Ня выкючана, — уздыхнула Ганна.

— Не глядзі толькі на цёмны бок падзеяў, — спрабаваў супакоіць Ганну Конрад. — У жыцьці лепей спадзявацца на лепшае, верыць, што цяжкасьці часовыя... І ў чым нас могуць абвінаваціць? Ты ўважаешся за добрую настаўніцу, а я — за навукоўца. Маё імя і сёньня на ганаровай дошцы, — ізноў ён весела засьмяяўся. — Старайся чуць сябе шчасьлівай. Паглядзі, якая сёньня прыгожая ноч! — паказаў ён ёй на пакрытыя белым інеем дрэвы перад тэатрам. — Проста казка.

Калі яны сышлі з трамваю на Даўгабродзкай вуліцы, каля “Дому спэцыялістых”, у якім жылі, убачылі на рагу, у куце каля дому, чорнае аўта, “чорны воран”. Па каго сёньня?

Па каго? Па Конрада. З таго часу мінула чатыры гады. Для Ганны — гады адзіноцтва, гады страху за лёс мужа, за лёс дзіцяці, за свой лёс. Што рабіць цяпер?

Так і заснула ў тую ноч Ганна, нічога не пастанавіўшы. На золаку прачнулася ад блізкага грукату. Маці стаяла ля ейнага ложка.

— Недзе зусім блізка б'юць з гарматаў, — сказала маці.

— Учора да нас прыходзіў Вэбэр, — сказала Ганна.

— Я ня чула.

— Ён прапануе мяне зь Лявончыкам адвезьці далей ад фронту. Ці ехаць?

— Трэба.

— Што трэба?

— Ехаць, — зь сілаю адказала маці.

Як заўсёды, маці выглядала спакойнай, пэўнай свае думкі. Гэта адразу сьцішала хваляваньне Ганны.

Ізноў заракатаў гарматны выбух.

— Няўжо мы зь Лявончыкам сёньня паедзем?

— Прынесла-б ты хутчэй дроў, — сказала маці й шчыльней захінулася ў вялікую, зробленую зь белае воўны, хустку, што была накінутая на ейныя плечы паверх сукенкі.

Памешканьне ў бараку за ноч выстудзілася. Ледзяная падлога. Ледзяное паветра. Ганна сьпяшалася хутчэй апрануцца. Трэба было выпаліць пліту, што агравала два іхныя пакойчыкі, пакуль прачнецца малы.

На дварэ, ля ганку, ужо стаялі Арына з мужам. Ізноў загрукатала. Васіль глядзеў у бок, адкуль нёсься грукат выбухаў.



— Цэляць на нас, — сказаў ён.

— На нас?

— Пэўна. Не забывайся, што тут за апошнія дні сканцэнтравалася шмат нямецкага войска.

— Ты мяркуеш, што немцы адыходзяць?

— Не мяркую, а чую. Учора да нас заходзіў Рудольф Матлер. (Васіль назваў імя знаёмага перакладчыка зь нямецкага войска.) Ён казаў, што іхнаму аддзелу загадалі адыходзіць на Рослаў.

Ізноў загрукатала, ды цяпер так блізка, што скалыхнула паветра, захістала пад нагамі зямлю.

На легкавым аўце да ганку пад'ехаў Вэбэр.

— Вы гатовыя ехаць? — запытаўся ён у Ганны, высоўваючы галаву зь дзьвярэй машыны.

Ганна глядзела на яго й ня ведала, што адказаць.

— Мой малы яшчэ сьпіць, — нарэшце, знайшлася яна.

— А рэчы спакаваныя?

— У нас ня шмат рэчаў, каб пакаваць.

— Маеце дзесяць хвілінаў. Ідзіце хутчэй зьбірайцеся, пакуль я забяру пошту.

Вэбэр паехаў.

— Пра што ён з табою гутарыў? — запытаўся Васіль.

— Каб я зьбіралася. Ён едзе з поштаю ў Смаленск і прапануе мяне зь Лявончыкам адвезьці далей ад фронту.

— Ён едзе сёньня?

— Зараз.

— Дык чаго-ж ты тут стаіш?

— Я ня ведаю, ехаць ці не бяз усіх вас.

— Ідзі зьбірайся, — сказала сястра.

Ганна прыбегла назад у свой пакой. Выцягнула з-пад ложка на сярэдзіну спальні валізу, раскрыла яе й спынілася, ня ведаючы, што рабіць далей. Думкі ў галаве блыталіся.

— Чаму ты ня прынесла дроў? — запыталася маці.

— Мы едзем.

— Калі?

— Вэбэр прыедзе па нас за дзесяць хвілінаў.

У пакой увайшла Арына з мужам.

— Ты мо пасьпела-б з намі пасьнедаць перад дарогаю, — прапанавала яна. Убачыўшы, што Ганна стаіць над валізаю, як няпрытомная, сказала:

— Ідзі, будзі малога, а мы з мамаю зьбярэм твае рэчы.

Надыйшла хвіліна разьвітаньня. Ганна працягвала чуць сябе разгубленай, калі, трымаючы Лявончыка за руку, разам із сваімі блізкімі, выйшла на ганак. Яна бачыла іхныя ўсхваляваныя твары, непакой у вачох. Адзін толькі Лявончык зіхацеў у радасьці: яму сказалі, што ён паедзе на аўце. Сьлёзы падкаціліся ў Ганны да горла. У яе амаль нястрымнае жаданьне пакласьці галаву на плечы маці й галасна загаласіць, як у дзяцінстве: “Мама, ці правільна я раблю? Ці добра? Што станецца з табою? Ці ня лепей застацца з усімі вамі?”

Маці нібы адгадала Ганьніны думкі. Яшчэ раз прытуліла яе да сябе:

— У цябе на руках малы сын. Думай пра яго. Не хвалюйся пра нас. Мы неяк дамо сабе рады.

Вэбэр рашчыніў дзьверцы аўта:

— Час ехаць.

— Я буду чакаць на ўсіх вас у Смаленску, — ужо з машыны гукнула да іх Ганна.

— Чакай нас не ў Смаленску, а ў Туравічах, — сказала маці.

І Арына нечакана ўсьміхнулася праз сьлёзы:

— Пастарайся дабрацца да Туравічаў, — пажадала й яна.

Туравічы — роднае сяло Ганьніных бацькоў у Заходняй Беларусі. Пасьля першае сусьветнае вайны паміж Туравічамі й Менскам лягла мяжа. Зьнікла мажлівасьць езьдзіць туды. Але ў сям'і пра Туравічы ніколі не забываліся: іх часта згадвалі з замілаваньнем і пяшчотаю. Адтуль у 26-ым годзе прыйшоў вучыцца ў Менскі ўнівэрсытэт Конрад Зяневіч.

Ганна вырасла пад савецкай уладаю. Рана спазнала голад і холад, вобыскі ў хаце, арышты блізкіх людзей. Конрад гадаваўся на другім баку мяжы. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Там стаўся камсамольцам. Прыйшоў у Савецкую Беларусь зь вераю, што на гэтым баку лепшая будучыня для чалавека. Ганна ня мела гэткае веры. Яны кахалі адзін аднаго, разумелі, але й спрачаліся.

— Пакінь крытыкаваць, — прасіў яе Конрад. — Крытыка не прынясе дабра ні табе ні мне. Я сумленна працую, захоплены працаю ў галіне фізычнае тэнікі, я маю свае вынаходы. Гэта таксама вельмі патрэбна й карысна для Беларусі.

— На зямлі, залітай крывёю, навука ня вельмі цешыць. Хіба ты ня бачыш, як цярпяць вакол цябе людзі?

— Добра, я бачу. Але-ж ня ў стане ні зьмяніць таго, што робіцца, ні спыніць. Ды наагул, калі новае прыходзіць да жыцьця, заўсёды штосьць павінна быць страчаным. Гэта закон.

— Іначай кажучы, дазваляецца фізычна й духова нішчыць нявінных людзей. Скажы мне, як шмат спасярод тых, хто раскулачаныя, хто

арыштаваньня й гінуць па турмах ды канцэнтрацыйных лягерох, запраўдных ворагаў народу? Як шмат? Адкажы сумленна.

— Пэўна, ня шмат.

— І ты запэўняеш мяне, што адданы свайму народу, любіш Беларусь?

— Пэўна, люблю! Але я не магу, як ты, крытыкаваць абсалютна ўсё. Калі я пачну гэта рабіць, я не змагу прымусіць сябе заставацца ў камсамоле, не змагу працягваць працаваць у інстытуце.

Ганна раней за Конрада прадчула, што бяда не абміне іхную сям'ю.

— Кожны дзень і цябе могуць арыштаваць, назваць шкоднікам, польскім шпіёнам, бо ты прыйшоў з Захаду, — хваляваласа яна.

— Няма горай, калі баішся: і ліха ня мінеш, і надрыжышся, — стараўся жартам супакоіць яе Конрад. — А калі-б штось благое нас напаткала, калі-б нас разлучылі, заўсёды памятай Туравічы. Там мае бацькі, там нашае з табою роднае гняздо.

Роднае гняздо... Ад 39-га году мяжа паміж Усходняй і Заходняй Беларусьсю зьнікла, а Ганна сьцераглася, каб хто з чужых не даведаўся, што яна паходзіць з Туравічаў, мае там сваякоў.

Сёньня маці й сястра нагадалі Туравічы. Апошні раз Ганна была там у 1915-ым годзе малой. У памяці застаўся чысты, як яснае неба, Нёман, зялёны луг, сьветлая прасторная хата, ветлівыя людзі на сяле. Усё, поўнае радасьці й супакою. Думка, што яна з сынам цяпер мо здолее дабрацца туды, прынесла ёй подых цяпла й надзеі.

Яна павесялела, адразу ўбачыла прыгаство марознага сонечнага раньня, якое дакранулася да чыстага сьнегу ў вадкрытым полі, зазіхацела на ім мільёнамі дыямэнтаў.

— Was für eine Schönheit, якая краса! — сказала яна.

— Diese Sshönheit das Leben unserer Soldaten an der Front zur Hölle macht * — азваўся Вэбэр. Ягоны твар быў нязвыкла хмурым, напружаным, вочы не адрываліся ад дарогі. Раптоўна аўта падкінула, тады сьлізганула ўбок. Отта ледзь утрымаў яго на дарозе. Вылаяўся:

— Donnerwetter, кожную хвіліну можна зьляцець у глыбокі сьнег.

Ганну ізноў ахапіў непакой. Яна бліжэй прытуліла да сябе сына, малілася: "Божа, дапамажы нам жывымі даехаць дадому". А Лявончык не адчуваў непакою маці, ён цешыўся падарожжам на аўце. Цікавіўся:

— Мы далёка паедзем?

— Нас ня вернуць назад? — відаць, ён прыпомніў няўдалае падарожжа два месяцы таму.

— Не, мой родны.

Аўта выйшла на гасьцінец. Пакацілася роўна. Замігалі тэлефонныя слупы з грубымі абледзянелымі дратамі, паабапал пацягнуўся заіндзявелы нярухомы лес. Не даходзіў сюды рокат артылерыйскіх гарматаў, а на дарозе, як кінуць вокам, нікога ня было відаць.

Твар Вэбэра стаў менш суровы. Ён усьміхнуўся да Ганны:

— Цяпер можна спадзявацца, што да Смаленска даедзем цэлыя.

— Сёньня даедзем?

— Я павінен быць там сёньня.

— Гэта праўда, што ад Смаленска на Захад ідуць ужо цягнікі?

— Праўда.

— Змагу я дастаць пропуск на цягнік?

— Я дапамагу вам. Дні за два мо будзеце ўжо ў Менску.

— Дзякую.

— Мама, Уладзік учора прынёс зь лесу ялінку, — прыгадаў свайго старэйшага стрыечнага брата Лявончык. — Ён казаў, што пасьлязаўтра прыйдзе Новы Год, і яго трэба сустракаць. Дзе мы з табою сустрэнем Новы Год? У Менску?

Не чакаючы ад маці адказу, ён пачынае марыць:

— Мы прыедзем, а тата ўжо дома чакае нас. Пабачыць мяне, зьдзівіцца: "Як мой Лявончык вырас!.." І ялінку для мяне тата прынясе вялікую, не такую маленькую, як Уладзік...

Гэта ня першы раз, што малы марыць пра бацьку. Ганна сама дае падставу ягоным марам. На сьвяты заўсёды найлепшыя падарункі для Лявончыка "прысланыя татам". Ганна хоча, каб сын ведаў і адчуваў каханьне бацькі. Яна ня тлумачыць яму, што бацька — вязень канцэнтрацыйнага лягеру, ня хоча трывожыць ягонага дзяцінства. І цяпер, хоць сама ня верыць у спатканьне з мужам, не пярэчыць сыну.

Не прадчувала Ганна, што словы Лявончыка блізкія да праўды.

*(Працяг будзе)*

*) Гэтае прыгаство робіць пеклам жыцьцё жаўнераў на фронце.





## Янку Золаку -- 65

Паэту, пісьменьніку, журналісту, працаўніку на грамадзкай ніве, Галоўнаму Рэдактару часапіса „Беларуская Думка" — Янку ЗОЛАКУ (А. Даніловічу) — 1 лістапада 1977 г. споўнілася 65 гадоў з дня нараджэньня.



**ВІНШУЕМ!**

Рэдакцыя й Выдавецтва часапіса „Беларуская Думка" сардэчна віншуюць Янку Золака (А. Даніловіча) з шасьцідзесяціпяцігодзьдзем і жадаюць яму добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцьця і новых творчых посьпехаў.

А сябра-зямляк юбіляра Міхась Кавыль прысьвяціў яму верш, які мы ніжэй друкуем.

Міхась КАВЫЛЬ

### Янку Золаку

(Да шасьцідзесяціпяцігодзьдзя з дня нарадзінаў)

Няўрымсныя шэсьцьдзесят і пяць
Замоўклі за плячыма.
Табе іх цяжка ўспамінаць,
Забыцца немагчыма.

А ў тых, што сьпераду стаяць,
З непазнавальным тварам,
Няхай ня сьпыніцца буяць
Гадоў юнацкіх мара.

Хоць на піколавай струне
Не забывайся трумкаць,
Бо, кажуць: — Янка распанеў
Над „Беларускай Думкай".

Шугай, паэт, пакуль душа
Трапечацца у целе,
Хоць за шугу — ні паўграша,
У Пантэон ня ўселяць...

Ці ты вялікі, ці малы,
Не дапаможа росту
Мана падлызнай пахвалы
Ды звон, крыштальны, тостаў.

Так чалавеку чалавек,
Як оервяно калодзе...
Ці ты паэт, ці дрывасек —
Цана адна ў народзе.

Бяда вялікая!.. Твары!
Адточвай словаў пікі
І за Сяднёвым паўтары:
„Я сам сабе вялікі."

*К. Юхневіч*

# ПАСЬЛЯ ПРАЦЫ

*(З цыклу: апавяданьні майго суседа)*

Той дзень для мяне быў звычайным днём: сонца ўзыйшло — дзень пачаўся, сонца зайшло — дзень мінуў. Адзін лішні дзень, адзін будучы для старасьці. Я старасьць ня любіў тады. Перакананьне, што, старэючы, чалавек становіцца больш разумным і дасьведчаным, ня вабіла мяне.

Ад самага маленства жыцьцё заціскае чалавека ў пасткі існасьцяў і няіснасьцяў. Чалавек гарыць у іх. Аднак, ня зусім гэтак, ён тлее у полымі нябачнага агню, — думалася мне, аніяк не разумеечы, дзеля чаго разважаю пра тое, што толькі, бы нейкі ўспамін, ці абы толькі думаць ці меркаваць?

— Сьвежая газэта! — на рагу вуліцы ўскрыквала жанчына, і я, не даходзячы бліжэй да знаёмага месца, дзе яна прадавала газэты і часапісы, пайшоў на другі бок — вярнуўся зноў да Пляцу Волі. Аднак выгляд газэтніцы я ўявіў дакладна. Мо ад ненатвасьці неспадзеўных думак, я чутна, самому сабе, выгаварыў:

— Нялюбая баба!

На ейным абліччы маршчакі — галаўня ў патухлым вогнішчы. Вось яна тлее ад жыцьцёвых існасьцяў, але не гарыць... Ды навошта гарэць? Найлепшае шчасьце ў жыцьці — гэта тлець; вось тады на цябе іншыя людзі паглядзяць і спакмецяць у тваіх вачох, аж да сьмерці ясьністых, сапраўдную волю спагнаць ад жыцьця ўсё, што толькі можна дамагчыся.

І я веру сабе.

Праходжу паўз лаўкі на скраю пляцовага сквэру з некалькімі клюмбамі садовых красак і дрэвамі. На лаўцы сядзіць дзядок з барадой па ўсім абліччу. Ён п'е піва. Упобач, перад ім — станавок, дзе месца двум вялізарным бочкам з півам і месца стаяць гандлярцы ці гандляру. Учора стуль прадавала піва дзяўчына, а сяньня — хлапец год васемнаццаці. Ён голасна паведамляе:

— Апошні бакал вунь той грамадзянін п'е.

Гэтую навіну ён абвясьціў мне, хоць я і ня пытаўся пра гэта.

— Дзядок, як і тая газэтніца, — падумалася мне.

Ягонае аблічча таксама, як у яе, пульхнае і, дзе незарослае даўгімі валасамі, скрэмсана ўрэзьлівымі маршчакамі.

— Пра што ён думае? — пытаюся ў сябе, ды хутчэй адварочваю позірк на ўзгорыстую шырыню Пляцу Волі. Позірк трапіў на Гадзіньнікавую Вежу, а тады на званіцу з пралётнымі празорцамі над старой сьвятыняй. Праменьні вячорныя праз іх навылёт. Ад іх там сьвятліста.

— Каб быць справядлівым, трэба ня верыць сабе, — падумалася мне. І гэтую думку я не дакончыў. Гадзіньнік на вежы водгульна адзваніў вячорныя гадзіны. Пад вежай сьцень. Там дзьверы. Яны зачыненыя. Кажную раніцу я адчыняю іх. На другім паверху, прайшоўшы досыць даўгавата па змрочнаму калідору, я зварачваў у пакой з двумя вокнамі на Пляц Волі — там працаваў я. Толькі ўлетку, раніцою, туды сьвяціла сонца, а рэшту дня запальвалася электрычнае сьвятло, або, каб ляпей бачыць сьпісаныя балонкі ў судовых справах, я прымашчваўся бліжэй да вакна. Каля вакна было сьветла, але часта было змрочна ў вачох і ў сэрцы ад розных людзкіх наканаваньняў, сьпісаных усяляк у судовых справах. Аднаго дня я перачытаў судовую справу майго бацькі. Блізу тыдзень усьцяж я вінаваціў і апраўдваў яго. А ён, памёрлы, шкада, ня чуе мяне. Ён падобны да Хведара, што напісаў віну на яго. І абое яны віноўныя і праўдзівыя. Находзілі выхад сваім жыцьцёвым патрабаваньням у тым, дзе было магчыма здабыць іх сярод дзяржаўнае недасканаласьці.

Прад "Домам Працы" ніхто ня ходзіць. Лаўкі парожнія. Саджуся на першую натрапленую. Лянотна расьцягваю ногі наўздоўж. Прыемна падумалася:

— Вось калі-б убачыў мяне старшыня калегіі судовай, я наўмысна не пазнаў-бы яго.

Старшыня, мой кіраўнік, высокага росту, з лысінай праз увесь чэрап, якая падыходзіла да ягонага, заўсёды абголенага, абліччa. Ён любіў торыць: "Віна сама ня прыходзіць". Вось тады, ува ўяўленьні, я коўзаўся па ягонай галаве нагамі, маімі босымі нагамі з прылепінамі пяску. Але што ад гэтага станецца яму? Ён таксама мог рабіць і задавальваць наводлесьць сваіх парожніх уяўленьняў.

Душнавата. Лета. Каменны гмах "Дома Працы" — я ведаю — сьцюдзёны. Вокны наўпрасткі вячорнаму сонцу асьветліваюць канцылярскія сталы ў сярэдзіне першага паверху, і складзіны сшытых папераў на паліцах.







Вартавы, колерам сьценю, увесь на сьцяне дому, стаіць каля ўваходных дзьвераў, абціраe пот хусьцінкай, а тады размахвае ён — асушвае. Спакмечвае мяне. Гарэзьліва кажа:

— Будзе дождж, таварыш! Паветра навальніцай пахне.

Я не адказваю яму.

З-за рогу дому, пад руку з дзяўчынай, пасігаў памалу кадэт Менскага вайсковага вучылішча. Дзяўчына вясёла глядзіць у ягоны твар, ён штосьці гаворыць, не пазіраючы на яе. Яна была прызвычаеная. Няўхільная ўсьмешка на ейных вуснах, карысталася ёй пэўна-здольна. Мужчыны саромная ўсьмешка — шчырасьць Вартавы азірае іх усьлед. Глядзіць на мяне. Ягоныя цынічныя, прыплюшчаныя вочкі празорацца пад густымі бровамі. Ён напэўна асвойтаўся назіраць за ўсялякімі прахажанамі й па ўсялякаму адгадваць іхныя адчуваньні па захаваньню.

— Вось ён і шчасьлівы. Яму не патрэбна думаць пра судовыя справы, пра матэматыку — рахунак адзін: зарплату дадуць.

Ува мне зьявіўся двойнік: два Я. Размаўляем нячутна. Ужо стане разважаць пра абліччы людзкія. Яны не заўсёды люстэрка іхнае душы. Я пачаў азіраць сьцяну "Дома Селяніна".

— Трэшчынаў па сьцяне няма. А калі-б і былі трэшчыны, што мне ад гэтага прыбудзе, або адбудзе?

— Навошта дурна думаць?

— Табе было-б сумна.

— Тады сумуй!

— Ад смутку смутак мінае — весялосьць буяе.

— Але ня смутак.

— Мне ўсёдна — бо паверыцца: ты бярэш усё ад жыцьця.

— Але гэта зноў дробязь жыцьця.

— Нічога. Губляй дробязі ў дробках дробязяў.

— Дзеля чаго? Бо думай: ты ведаеш што іншым ня трэба ведаць?

— А што ты знаеш і ведаеш?

— Я — маладзы яшчэ.

— Тады і ведай маладое.

— Нестары — мушу ведаць маладое.

Я ўспомніў сакратарку із судовай калегіі. Яна замітусілася ў маёй уяве.

— Ты-ж усёдна жанчына.

— Прыходзь да нас, — казала яна.

— Чаго? — пытаўся я.

— Пакажу малявіды майго брата. Ён — мастак, прызнаны мастак.

— Дзякую! Прыду заўтра, — абяцаў заўсёды я.

Ад таго часу мінула месяц, а можа больш, але да ейнай кватэры, паглядзець працы брата, я не завітаў. Яна ня крыўдзіцца — не адступае, завіхаецца каля мяне, але паставіцца на сваім — зьвярні больш увагі на яе — ня вельмі спрабуе.

— Сяньня пайду да яе, адрас ведаю.

Барджджу да наступнага вугла "Дома Селяніна", там прадаюць аж да позна кветкі. Сакратарка падабаецца мне. Падарую кветкі — сяньня ейны дзень нарадзінаў. Успомніў пра сваю маму. Ужо каторы год ня бачу, і ні якога падарунка нат не пераслаў ёй. "Мама не пакрыўдуе на сына".

Некалькі аўтамабіляў перашкаджаюць мне перайсьці вуліцу. Мне жадаецца хутчэй убачыць сакратарку. У жмутку кветак, што я куплю для яе, надзіцца ейнае аблічча з прось-мамі валасоў ажно на плечы. Неспадзеўна міла і люба мне. Буду я каля яе, а можа хто-небудзь іншы? Хай будуць. Здаецца, я кахаю яе, а калі не: давай паспрабую закахацца.

Нарэшце пераходжу вуліцу. Аўтамабільны рух утаймаваўся. Вазкоў з кветкамі не магу спаткаць. Азіраюся. Мне хочацца адно гутарыць, гутарыць з самім сабой ажно ў трох асобах, а мо нат больш, чымсьці ў трох. Хвалькі Сьвіслачы-ракі таксама чутно гавораць. Яны, быццам расьсьцілаюць даўжыню свайго бруненьня, быццам спрабуюць абняць што ім не належыць паміж узьбярэжжаў. Зноў урываецца гук аўтамабільнага матору ён глушыць на некалькі часінаў раўнамернасьць бруненьня ракі Сьвіслачы і грукацельне мосту праз яе.

— Навошта цікавіцца самім сабой?

— Не разумею, — адказваю гамонка. Жадаю ацішыць свае цікавасьці. Але немагчыма. Яны найбольш становяцца тым, чым ты не жадаеш.

Вяртаюся да "Дома Селяніна". Ідучы, навет паспрабаваў азірнуць самога сябе. Нічога асаблівага. Належу да чалавечае расы, роду мужскога. І ня зусім складна на мне новы гарнітур з фабрыкі "КІМ". Загуляліся словы: пашыты кім? Вось тады мне сталася сполахна.

— Ты — нічога.

— Увабразі: ты — нічога. Спажыву ты ня варыш і не здабываеш яе цяжкай працай; ты ня шыеш вопратку для сябе — купляеш.

— Няўжо я нічога?

— Ты-ж працуеш у судовай установе. Людзкую несправядлівасьць разьбіраеш і складаеш яе да толку, каб яна сталася справядлівасьцяй камусьці.

— Мы ўсе працуем у меру нашага таленту і здольнасьці.

Не задавольваюся адказам.

Праходжу паўз высокія званіцы старажытнага манастыра.

Вечар, бы наўмысна, памальны, высіць нада мной іхную высотнасьць і ціхату ўроўні з маімі ступнямі, а ніяк не апускае да роўні брукаванай вуліцы і ходніка.

— Людзі ў сваіх тварэньнях вышэй сябе.

— Ты забыўся пра імкненнасьць тваіх прашчураў паказаць нашчадкам сваю высокасьць культуры. Словы і славу ў словах летапісаў толькі потым можна ўсяляк разумець і асудзіць. У памятных, навочных дзеях яны трымаюць нашчадкаў у цікавасьцях іхнай творнай маладосьці, якую яшчэ ня справіліся адолець і зьдзейсьніць ні сваероднае пакаленьне, ні чужынцы.

Зноў саджуся на лаўцы насупраць "Дома Селяніна". Стуль бачна будынак, дзе я працую. Сьцяна "Дома Селяніна", якую азіраў прад гэтым, мяне вабіць, як маё адчуваньне, што ніяк не разумею. Я цемлю і ўспамінаю што было са мной і з невядомымі мне прашчурамі, але прадбачыць, хоць крыху адчуць сваю будучыню, ня ўздоле. Асудзіць мінулае заўсёды лягчэй і даступна. Дзеля сучаснасьці патрэбен досьвед, але досьвед не марудзіць аб'явіцца: іншым днём яго можна спаткаць поўнага няпэўнымі высновамі й пераканаваньнямі.

Я цяжкім позіркам аглядзеў сьцяну. Цяпер убачыў: яна патрэсканая аж пад самы дах. Навет некалькі разгоністых і круглаватых працяжанаў-патрэшчынаў творяць малюнак яблыка: ад верху з валосікамі-суквецьцямі — пыхата да жыцьця, ад нізу выйма-яміна — штуршок да жыцьця; і найгоршае ўсмоктана: даганю жыцьцё, ня дам табе разгону, усмакчу назад да ямы.

Мне зрабілася сьмехавата ад свайго прыдуманага сымбалю для жыцьця, але не сьмяюся. Ад судзейскай прызвычаенасьці ўсё гэтае асудзіў высновам, што ўсялякаеназіраньне патрабуе слухмянасьць наводлесьці думак, што таксама ніколі ня будуць роўныя ды пэўныя ў згодзе. Адна з іх мусіць быць супраціўная іншым.

— Валей, забыцца на гэта, — гаманю я і адвaрачваюся ўсёй постацяй на шырыню Пляца Волі. Чорны сьцень Гадзіньнікавай Вежы распластаўся ажно даўжэй чымсьці пляц.

— А раніцою яго няма, — заўважае нехта іншы ў маім целе.

— Бо дзяржава — сьцень, — адказваю я.

— Чаму дзяржава сьцень, а нішто большае, чымсьці сьцень? — пытаецца мой іншы.

— Бо, — зноў карыстаюся "бо", — дзяржаўны палад толькі выхад некаторых адносінаў паміж людзьмі. Спакмень і якасьць вартасьцяў у дзяржаве розны паміж сябрамі нацыі й самой, у самой дзяржаве.

— Ты-ж дзяржавы ня маеш, — пацікаецца мой іншы, — значыць, дзяржаўнага досьведу ў цябе няма. Вучыся яго ад іншых дзяржаваў.

— Мой род свае апрычонае імя мае, таму ягоны дзяржаўны досьвед ад свайго быцьця нараджаецца.

— ...тады не выхваляйся сваімі адчуваньнямі й смуткамі, а знайдзі прылуку і здольнасьць трэшчыны на сьценах свае дзяржавы ў друзы пасласць.

Так, я маю досьвед і прылукі дзеля досьведу.

Цынічна адказваю:

— Вялікія дзяржавы вучацца адна ад другой. "Бо", як былі іхныя непагоджаньні паміж сабой, яны патрабуюць моцнага, вялікага сябру. Вялікі Рым і распаўся таму, што ня вельмі шукаў сабе роўнавялікіх. Меншых ёсьць больш, чымсьці вялікіх.

— Але, але, мой сябёр, — кажа мой праціўнік-дадумнік, — меншыя — мікробы для вялікіх. Іх ня лёгка прыхваліць: "Залатыя пялёсткі нашага дрэва". Усьміхаюся сьмехам, (разам за ўсіх), сьмехам Беларускага Люцыпара, і за Яна-Купалу-бога, бога-боскага на маёй зямлі, што ведае час красаваньня і адміраньня.

— Зкяглі-і-і! — уторваю неспадзеўна я. Слова, што прызвычаілася мне, мабыць, тады, калі быў немаўлём. Я даўно не карыстаюся ім, а калісьці, памятаю, тлумачыў маме ці бацьку, як спынялася калясо у млыне. Я любіў млын.

Узіраюся ў сьцінак да вуліцы ўпобач будынку з Гадзіньнікавай вежай. Стуль чуцен кароткі ўскрык жанчыны:

— Ратуй!

Весьніцы ў аўтамабілі рэзьліва адчыніліся. Спакмечваю, зноў не зачыніліся. Іду туды. З воддалі бачу кіраўніка аўтамашыны, ён адпіхае жанчыну і прыпадае да зямлі. За дзьве часіны мо, натоўп абступае машыну і пачатак вуліцы ад Пляцу Волі. Ужо сьценю ад Гадзіньнікавай Вежы няма. Сама вежа, як сьцень-малюнак, у бражовым сталічным небакраі. Старэча-жанчына не выпускае, трымае кашолку і торыць па-расейску з беларускім акцэнтам:

— Сын мой вазнаградзіць яго! Вазнаградзіць, таварышы! Сама відзела!

І яна пазірней падыходзіць да мужчыны, які бадай напалову раструшаны аўтамабільнымі калёсамі. Ён паміж імі пярэднімі й задпімі. На вуліцы прад гурмой, што сабіралася, ягоная шапка ляжыць; бы кінь убожыньу ў яе, бы задорліваcьць бітка для стаўкі іграком.



Шофер ня сьцерплівае. Устаючы ад раструшчанага чалавека, мацае яго за руку, якая сударгна перабірае пальцамі, несамавіта кажа жанчыне:

— Замоўкні, дрыхляціна!

Гамонка натоўпу, шафёравы словы, пагрозы жанчыны помачай, мабыць сын ці не міліцыянэрам быў, нічога не гаворыць мне. Узіраюся на раструшчанага пад цяжавіком чалавека. На ягонай кашулі знаёмыя стужкі вайсковых узнагародаў — дзьве мэдалі за ўдзел у Айчыннай вайне. Я ўспомніў, калі сядзеў на лаўцы наўсупраць "Дома Селяніна", я абыякава заўважыў, што водшыбку ад Гадзіньнікавай Вежы, мужчына ў гэтай самай вопратцы спыніў жанчыну з кашолкай у руках, штосьці пытаўся ў яе, і яна паказала пясьцяй на будынак, дзе я працаваў.

Ад месца здарэньня я пайшоў да сакратаркі.

— Бяз кветак, але пайду, пайду да яе!

— Госьці напэўна разыйшліся, — падказаў мой двойнік. Я слухаю яго, але не скараюся.

— Не, дружа! Я іду да яе. Не апякуйся мной!

Я ішоў хутка. Успамінаў дзень працы і здарэньне каля гмаху, дзе працую. За мастом праз раку Сьвіслач, на ўзгорку, узбоч тэатру Опэры й Балету прыпыняюся: Менск увесь у скойме летняе начы. Зыркліва сьвяціла сьвятло ліхтароў у парках і ў камяніцах-гмахах. Уяўлялася: не ліхтары сьвецяць, а шум і рух сталічны.

На вуліцах ад тэатру Опэры й Балету шмат будынкаў драўняных, яны стаялі далекавата адзін ад другога, некаторыя туліліся ў засенях саду або прывулічных каштаноў.

Вуліцу і дом, дзе жыла сакратарка, я знайшоў барзьдліва, а можа толькі здавалася гэтак. Пастукаў у дзьверы. Дзьверы да памяшканьня яшчэ не адчыніў ніхто, але за фіранкамі паловымі ні то ад сонца, ні то ад часу доўга захінаць шыбіны ў дзьвярох, пачуўся голас незнаёмы:

— Гэта-ж яны.

Можа я памыліўся? Не, нумар на дзьвярох той, што ўжо запомніўся, як некаторы артыкул не памятаўся з грамадзянскага ці крымінальнага кодэксу Беларускае ССР.

Дзьверы наўмесць адчыняе жанчына. Няўжо я доўга блукаўся па вуліцах, пакуль знайшоў дом, дзе жыве сакратарка? Я чую як гадзіньнік на маёй руцэ выразьліва цікаў. Тым вечарам і ночай я не паглядзеў, каторая гадзіна была. Сакратарка абняла мяне ў палове майго росту-стану.

— Я крыху вышэй за яе, — падумалася званулсна.

Яна цалавала мяне доўга. Жанчына, напэўна-ж маці, завіхліва абмінула нас.

— Запрашай да стала. Не марнуй час, — кажа яна, і ейныя вочы, калі яна ўваходзіла ў другі пакой, глядзелі проста ў мае; па ўсім абліччы ўсьмешка, бы вячорныя хвалькі на рацэ Сьвіслач. Абцерла рукі пярэднікам, нарэшце ў другім пакоі.

— Гэта мама мая. Яна таксама чакала цябе.

— Чаму гэтакім блізкім стаўся вам? — падумаў я, і таксама ўсьміхаюся ўсьлед ейнай маме. Цэлы вечар усьміхаюся.. Сакратарка ўсё яшчэ трымае мяне ў палове майго стану.

"Яны, — думаю, — усе добрыя і шчырыя".

У наступным пакоі маці сакратаркі зашоргала крэсламі. Кладу руку на ўсплечча сакратаркі. Я ня ведаю: ці лічыць часіны пакорнасьці ейнай гасьціннасьці, ці думкам, якія былі ў той вечар безразборныя і беспарадкавыя.

— Убудні дзень гуляць грэх, а ў сьвяты працаваць ня грэх, — прагаманіў "мой трэці". Ах, гэты "трэці"! Ён заўсёды навучае мяне, але ня стрымоўвае. Бязупынна дае натацьі-наганяі. — Будзь калі ня цынік, дык хоць уважным, — кажа ён далей, але спытацца яго, што значыць: "у будні дзень ня гуляй, а ў сьвята працуй", не спраўляюся. Сакратарка была мілая. Усьмешка з вуснаў ня зыходзіць. Пакуль "два ўва мне" моўкнуць, я падумаў за ўсіх траіх. — Будзе яна гаварыць што-небудзь, ці адно толькі ўсьміхацца?

— Сядайце! Я гэтак радая: нарэшце вы завіталі да нас...

На дзьвярах із шыбінамі, за якімі ейная мама зьнікла, калі я завітаў да іх, абвіслы спакой каляровай запоны ледзь-ледзь, блізу жывы, адтатурыў адзін з краёў.

"Чалавек сваім позіркам дошку не пратне, — шапоча "мой трэці".

Я адказваю яму: "У хаце ёсьць кухня, і мо праз тыя дзьверы можна туды заходзіць."

Запона зноў прыхінулася да дзьвярэй рамы. Нарэшце, сакратарка прапанавала сесьці на дыване. Дыван пакладзісты, абабіты глянцаванай шкурай. Кветкі, што прынёс, нехта, а ня я, сакратарка рупліва стаўляе ў першапапалую шклянку на стале. Нехта, а можа яна, або ейная маці, не дапіў ваду з гэтае шклянкі. Па астанках на стале не спрабую агадваць: ці былі тут госьці, каб правесьці ўрачыста дзень нарадзінаў сакратаркі, ці ня былі. Адно бачна нехта тут быў і меў пачастунак.

Сакратарка садзіцца каля мяне. Азіраю нес-

пакметна сьцены пакою, і "трэці мой" загаварыў безгалосна:

— Пытайся дзе творы ейнага брата.

На сьцяне два адбіткі-рэпрадукцыі Рэнуара.

— Ваш брат добра малюе, — прыкідваюся невядомкім пра мастакоў. Сакратарка крыху адсела ад мяне. Ейныя вочы закасавурыліся на дзьверы да кухні, дзе час ад часу адхінаецца запона за шыбамі.

— А я радая, што вы прышлі. Мама і я заўсёды ў адзіноцтве... адзінотныя мы.

— Я адзінотнік таксама. Ды не! Я не пра адзіноцтва хачу сказаць, а пра тое, што ўсе адзінотнікі не адзінотнікі ёсьць, а звычайна людзі, што забыліся пра людзей упобач іх.

— Мажліва гэтак на сьвеце бывае, — адказвае сакратарка, гэтак сабе каб адказаць штосьці. Ня ў звычай жаночы, бы хлапец, прычэсвае правіцай валасы. "Трэці" зноў да мяне. Але не з парадай, а з заўвагай:

— Самае брыдкое, калі жанчына перабірае валасы пальцамі.

— Няхай-й... — супярэчу я.

Гэтае слова-адказ вырвалася з языка галосна. Сакратарка ажно спыталася:

— Не разумею. Чаму: няхай?

— Яно так сабе. Бо калі ідзеш, значыць: ты ідзеш, не сядзіш.

Запона на дзьвярох да кухні зноў адхінаецца. І сакратарка, я пэўнюся гэтак, ня бачыць гэтага. Яна папраўляе сукенку на каленях. Я апынуўся зраднікам усім "маім траім". З майго голасу зноў чутка вырываецца ні то: — Гы-ы-м! — ні то надарылася кашлянуць гэтак. Ня дурны беларускі ўсклік! Сакратарка нічога ня кажа, і яна ведае, што я, не якія-небудзь бяшчэльнік. Мы абое тоімся ў сваіх думках. Я пэўны: яна таксама, як і я, чуе сваё дыханьне. Я адпачываю. Я любуюся жанчынай, якая падабаецца мне. Некалісьці, мо яна ўцешыць мяне. Яна заўсёды паказвала заханьні да мяне:

— Ты ў маім сэрцы.

Я пайшоў да яе, каб пазнаць нарэшце: ты жадаеш быць сакратаркай, ці жонкай, каб нараджаць дзяцей ад мяне, каб казаць: "мужчына мой пайшоў на працу; ён перамяніў думку пра кватэру, што вы прапанавалі; людзі, вы можаце казаць усё пра яго, а ён, якога кахаю я, можа памыляцца, але ў памылках ягоных, я за яго".

— Вось дык упрыгожваньне! — пацікаецца ўва мне "трэці".

Хто іх ведае, няхай іншыя ведаюць іхныя ўпрыгожваньні, урыўчатаваньні! Сакратарка яшчэ ня выбілася із жыцьця — яна сакратарка. А вось некаму ўпобач яе маладой, хтосьці паспрабаваў быць чымсьці ў жыцьці й не дасягнуў пра што ён мроіў, але не спрабаваў дамагчыся вынікаў, хоць-бы кімсьці апаганеных, кімсьці адмаўляных, але вынікаў вартасьці быць вартасьцяй у жыцьці. Ды найгорш: калі ёсьць зьнявечаная вартасьць, яна апынуўаецца прэтэнзіяй быць патрэбнай, часткай патрэбнасьці. І патрэбнасьць найзаўсёды бывае чысьценькім прыстасаваньнем: дакончыць жыцьцёвы век добрым, багаслаўленым існаваньнем.

Запона за шыбінамі на дзьвярох да кухні зноў паўзьліва, складкамі вусеніцы, адхінаецца. Мой зрок мацнейшы. Бачу адно вока стуль з брывом шызаватым, натаропленым, нібы ворган успрыйманьня. Сакратарка скувыраным позіркам глянула туды таксама. Яна захоўваецца прада мной з нейкай асобнай дысцыплінай і дасяжнасьцяй. Мы шмат ня гутарылі прад гэтым і вось цяпер, паміж намі моўкнасьць. Чувацъ, як вялікі сьценны гадзіньнік ня цікае, а брынчыць усё ў ім... Сакратарка цяжка саўганулася па дыване. Глянцаваная шкура на ім, пад ейнай постацяй, зарыпела. Мне сьвіганула ў памяць скрыгатам тамавікоў самаходу, пад якім загінуў Хведар. Калі я ішоў сюды пасьля таго здарэньня, я думаў, з чаго было трэба пачаць, каб сказаць сакратарцы і мо іншым, што аўтамабілісты забіў майго калішняга сяльчаніна, а потым забыцца пра яго і нарэшце... нарэшце кахаць сакратарку.

— Навошта табе лякарня сакратаркі? Ты моцны, ты здаровы. Кажная складка на тваім абліччы кажа: ты чалавек гардлівы. Гардлівасьць у чалавеку — праўда. Найсправядлівая праўда! — падзяў мне "трэці". — Чалавек — дзее дзеля гордасьці. Чалавека можна адолець якая-небудзь прыродная катастрофа. Чалавека можа адолець якая-небудзь прыродная катастрофа. Чалавек-людзьвін — гэта ўсяго і ня больш — ягонае імя. Не-е! Чалавек — гэта ёсьць: я ўладаю над тым, што мне патрэбна і належыць. Я — чалавек, розьніца людзкіх характараў, таму Я і кажны чалавек ёсьць незалежнік свайго, сваіх навакольных умовінаў. А пакольк і Я існую, я жадаю існаваць у межах "пакольк". Ад гэтых Я пачатак нацыі й дзяржавы...

Сакратарка не сядзіць на дыване. Яна ўстала, стаіць перада мной. Ейнага вока ніхто ня бача апрача мяне — яно прышлюснутае. Але пакуль "трэці" ўва мне гаманіў свае меркаваньні, я ўзняўся з месца ўпобач сакратаркі крыху хутчэй, і бяз рыпу па глянцаванай шкуры на дыване.

— Вы ўжо адыходзіце? Ах, як шкада-а.

Ейнае левае вока плюшчыцца радзьвей. Укладваю ў кішані пінжака рукі й нацягваю яго пракудна на маіх сьцягнюках: глядзеце на каралеўскае месца на маёй постаці — вас не баюся я!

На ганку сакратарка хутка-гаворна шэпча мне:

— Ня прыходзь сюды...

Не даю дакончыць ёй. Мне зразумела ўсё: яшчэ адна нянаская эпоха ў маёй Айчыне. Вызыўліва, наўмысна чутна, сьмяюся. Сьмяюся штучна. Пасьля ўсьмехаў, сьмех прыйшоў — мастацтва гордасьці, пераможнасьці над нікчэмнасьцяй імкненьняў іншых людзкіх Я.

— Навошта: ня прыходзь сюды? Найлепш: ня *прыходзьце* да нас!

Удзячу сакратарцы, жадаю "добрай ночы", адыходжу ад ейнай сялібы. Неўзабаве, неяк самавольна, бы ў мальбе, падымаю ўгару далоні наўсупраць высокіх камяніц сталіцы ярчыста асьвечаных электрычнымі вагнямі...

Не! Мне жадаецца, і я ня ведаю з чаго паняць. Хочацца даведацца, каго хацеў бачыць Хведар у доме, дзе я працую. Мне ўсё-ткі шкада Хведара, як і майго памерлага бацьку... Шкадую і сакратарку.



УЛ. ГЛЫБІННЫ.

# Паэта з Божай ласкі

*(Працяг, пачатак гл. у № 16-17, 18-19 і 20)*

## *10. ЛІРЫКА, ШТО САБЕ НЯ ЛГАЛА.*

Вялікі разьдзел лірычных вершаў, што йшлі пасьля паэмаў у зборніку "Песьні на руінах", Язэп Пушча назваў "Чорная дарога". Фактычна, яго лепш было-б назваць паводле назову цыклю вершаў "Асеньнія песьні", што былі выдрукаваны ў часапісу "Узвышша" №5 за 1927 год. Разьдзел "Чорная дарога" і пачынаўся першым вершам з "Асеньніх песень" — "Сам ня знаю, што сягоньня я сыграю", але без паказаньня першапачатнага назову цыклю. Другі верш з "Асеньніх песень" ужо трапіў у "Песьні на руінах" як асобны верш пад назовам "Заплаканы вечар" і быў адлучаны ад першага вершу з таго цыклю колькімі іншымі вершамі. Відаць, зроблена гэта з узгляду на цэнзуру, бо перад тым ужо "Асеньнія песьні" разам з "Лістамі да сабакі" зьявіліся аб'ектам наскоку варожае Пушчу крытыкі. Разьбіўшы "Асеньнія песьні" на асобныя вершы і зьмясьціўшы іх у розных месцах разьдзелу "Чорная дарога", паэта часткава адводзіў увагу ад тых вершаў пільных цэнзараў і такім чынам адчыняў ім дарогу ў той зборнік. Пад сваім назовам яны не маглі зьявіцца ў друку другі раз. Адылі і сам назоў усяго разьдзелу "Чорная дарога" надзвычай добра выяўляе сутнасьць тагачаснае лірыкі Язэпа Пушчы. Гэта быў беспасярэдні і шчыры выяў тае ўнутранае трагедыйнасьці думкі і пачуцьцяў паэта ў другой палове дваццатых гадоў. Паэта тады шчыра перажываў глыбокае расчараваньне ўсім бачаным. Адзіноцтва і самота ў вялікім горадзе (Язэп Пушча тады якраз вучыўся ў унівэрсытэце і жыў у Ленінградзе), расстаньне з Бацькаўшчынай, роздум аб незайздросным лёсе Беларусі, разадранай па жывым целе і падзеленай паміж двума суседнімі хіжакамі, усьведамленьне адвечнае крыўды, чынімае нашаму люду з боку чужынцаў, міжвольна запаланялі чулае сэрца болью і будзілі сумныя думкі. Сын вёскі, Язэп Пушча не прыймае ў свае сэрца гарадзкую рэчаіснасьць, адштурхоўваецца ад кантраставых урбаністычных пэйзажаў і кожны раз зноў і зноў зьвяртаецца да абраза свае любае Беларусі, якая яму цяпер уяўляецца ахвярай запрыгоненьня чужынцамі:

*Зябка мне і сэрцу ў палітоне штацкім, —*
*Ўзьняўся вецер золкі на заліве Фінскім.*
*Я стаю ля сьценаў акадэміі мастацкай,*
*Прад вачмі маімі вяліканы сфінксы.*

*Ці ўзьвіецца дух мой творга-сакаліны?*
*І ці ўдасца толькі мне іх разгадаці?*
*Пралажылі людзі рэйсы-каляіны,*
*Пралажылі ўсюды: праз паветра й гаці.*

*Я-ж тулюся ў суме да самотных статуй,*
*І сьляза спадае на граніт і мармур.*
*Беларусь краіна, найміцай астатняй, —*
*Ў апранасе рванай днём і ноггу хмарнай.*

*Ой, Зямля-плянэта і браты-народы!*
*Я спраўляю штодзень страшнае маленьне:*
*Расьпяваю псалмы аб краіне роднай,*
*Расьпяваю ўвегар, стаўшы на калені.*

*Сашгамляю рукі і ўзьнімаю ўгору, —*
*Хоць ня містык духам, не манах пакорны.*

*Багу на панэлях бяспрытульны горад, —*
*Не магу ўхапіцца аніяк за корні.* 77)

Аднак, нават пры самых чорных думках у Пушчы застаецца месца для надзей на лепшае. Гэтак, пасьля абраза "найміцы ў апранасе рванай", даецца абраз больш сьветлае прышласьці, калі —

*Будзе дзень сьвятогны, дзень другога прыйсьця:*
*Прыдзе Маці з сынам, на услоне сядуць...*
*Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця, —*
*Будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.*

*Прыдуць з песьняй тыя, што сабе ня лгалі,*
*Што сьлязу ранялі на сырым кургане...* 78)

Якраз тут, поплеч з вераю ў другое прыйсьце Вольнае Беларусі, Язэп Пушча коратка і добра азначыў сябе, як песьняра, "што сабе ня лгаў". У гэтым лішні раз пераконваешся, калі чытаеш разьдзел лірыкі "Чорная дарога". Тут адно сапраўды перажытае і асабіста адчутае асобаю паэты і знаходзіць месца для выяўленьня. Асабістыя настроі, адчуваньні, адно тое, што сапраўды хвалюе, кратае чалавечую душу, маркоціць або радуе, мучыць або ўспакойвае, трывожыць або неадступна прыгнятае яе, словам тое, чаго нельга абыйсьці абыякава, становіцца аб'ектам паэтычнага адтварэньня. Сьвет духовага жыцьця паэты, прапушчаны праз асабістыя адчуваньн, перажыты і прадуманы робіцца лірыкай пад пяром таленавітага паэты. Усяму даецца беспасярэдняе выяўленьне нутранога пачуцьця. І ўсё афарбавана моцнай эмацыянальнасьцяй асобы паэты. Знадворныя зьявы рэчаіснасьці тут праходзяць праз прызму асабістага ўспрыйманьня і адлюстроўваюцца ўжо пераіначанымі накшталтператворанага ў ідэальнае ў мастацка-творчым працэсе. Беспасярэдняя форма выяўленьня дае змогу паэту гаварыць ад ягонага собскага імя. А гэта надае ягоным думкам і пачуцьцям асаблівае паўнаты і сілы ўзьдзеяньня. Аднак, дзякуючы моцным пачуцьцям свае нацыянальнае апрычонасьці і высокай сьведамасьці й усьведамленьню ідэалаў адбудовы Бацькаўшчыны, дзякуючы высакароднай грамадзкай і народнай настраёвасьці паэта, Пушчава лірыка не сталася вузка-асабістай. Яна выконвала высакародную ролю агульна-нацыянальнага чыньніка і станавіла сабою выдатную зьяву ў культурным разьвіцьці беларускага народу. Ягоныя вершы поўныя агульна-значнага замілаваньня да роднага краявіду і служаць справе выхаваньня вартасьнейшых патрыятычных пачуцьцяў. Разам з тым у іх разьліта гэтулькі захапленьня роднаю красою, прыгожасьці роднага краявіду і музыкі роднага слова, што кажны вызнае за імі высокую эстэтычную каштоўнасьць. Хіба можна абыякава мінуць музыку родных словаў, накштат наступных:

*Прастор, агаруненьі шумам бяроз,*
*Напевы рассыпаў у хвалях крынігных.*
*Мэлёдыі іх разьліваюцца скрозь,*
*Мэлёдыі іх у маршгынах аблігга.*

*Лазьняк на балотах увесь не пасох, —*
*'Шгэ доўга з ім будуць хістацца гароты.*
*Краіна мая шумазвонных лясоў,*
*Твае на курганах губляюцца тропы.* 79)

А вось, узятыя Кузьмою Чорным у якасьці эпіграфа да рамана "Зямля" Пушчавы радкі з вершу "Ў прасторы зоры...":

*Ў прасторы зоры лушгаць*
*Сузор'яў срэбра-стынь.*
*Лясы, дубровы, пушгы*
*Вартуюць нашу сінь.* 80)

Яны нагэтулькі дасканалыя і ў мастацкім сэнсе закончаныя, што тут гэтак і хочацца прадоўжыць іх цытаваньне, каб падзяліць з чытачом насалоду іх вымаўленьня:

*У смольным іхнім звоне*
*Ліецца даляў плынь,*
*Крыніцы з імі звоняць,*
*Змываюць боль, палын.*

*Таемнасьць — здань тут сьніцца*
*Пад скрып і рып калёс.*
*Туман даліне ніцай*
*Губляе пэрлы рос.*

*Тут ніву песьцяць песьні*
*І ветры гайсуны...* 81)

І цікава, што тут-жа, на фоне гэтага, ператворанага ў ідэальнае, краявіду Язэп Пушча дае волю сваёй душы і выказвае адвечную крыўду за лёс народу:

*Як шмат тут гвалту зьнесьлі*
*Пакорнасьці сыны!*

*Ў вагох іх скарга лёсу,*
*На рысах твару гнеў.*
*Каму так давялося*
*Гібець вякі ў багне?*



*Калі пад сонцам ясным*
*І хто зьбіраў свой плаг?*
*Ад родных гналі ясьляў,*
*Як тых паганых кляг.*

*Таму і зоры лушгаць*
*Сузор'яў срэбра-стынь;*
*Таму й дубровы, пушгы*
*Трасуць свае лісты.* 82)

І гэтак у Пушчы заўсёды вылучна асабістыя настроі непадзеляныя зьнітаваныя з роздумам аб Бацькаўшчыне, паэтычна-узьнёслы краявід нясе сабою функцыю выяўленьня самае сардэчнае замілаванасьці да краю, а найбольш шчырыя словы беспасярэдняй любові скіраваныя да тае-ж роднае краіны, ідэалам адроджаньня і ўзвышэньня якое заўжды жыло чулае і гарачае сэрца паэты. Гэтымі думкамі прасякнутыя ўсе вершы разьделу "Чооная дарога". Іх ён выяўляе не адно ў лірычна-пэйзажным вершы, але і ўва ўсіх вершах-лістох, адрасаваных па форме, прыкладам, да бацькі, маці, братоў і сясьцёр, сяброў, паэтаў — пабрацімаў па пяру. Асабліва значным стаўся трэці ліст да паэтаў, які ўвайшоў у цыкль "Новыя лісты" зборніка "Песьні на руінах". Сярод нас, маладых літаратараў пачатку трыццатых гадоў, той верш запаў нам у голаў і чытаўся намі напамяць не радзей, чымся вельмі папулярны і любімы намі верш Аляксандра Блока "Поэты". Але, калі ў Блока падкрэсьліваецца адлучнасьць паэта ад сьвету звычайных людзей, ягоная здольнасьць бачыць у зьявах рэчаіснасьці ператвораны творчаю ўяваю ідэалізаваны сьвет, дык у Пушчы на першы плян высоўваецца ідэя тварэньня новых, беларускіх рытмаў, ідэя ўзыходу беларусаў на мапу сусьветнае літаратуры, узбагачэньня сусьветнай мастацкай скарбніцы беларускім укладам. Паэтам-чытачам з Заходняга сьвету Пушча дакляруе запазнаньне з зусім новым, адменным сьветам, што нясе ў сабе таемнасьці сьвежага першабытнага здароўя і блізіні да некранутае прыроды, жывое і магутнае беспасярэднасьці людзей, што яшчэ ня зьедзеныя чарвяком старое звыраднелае культуры. Пры гэтым паэта не забывае зноў-жа згадаць "аб вечным бяспуцьці" яго. Увесь верш патэтычна-узьнёсла выяўляе патас паэтызацыі натуральнасьці, праўдзівасьці і адсутнасьці штучнасьці ў беларускім тврорстве. Праўда, ідэальнае і жаданае верш нібыта выдае за існуючае, гаворыцца, што паэты не разьбіты на цэхі і нібыта ніхто не складае дакучных балядаў. Фактычна тут сьцьвярджаецца ідэал і само адмаўленьне хавае ў сабе відавочную стралу ў бок яўнага. Гэта пацьвярджаецца далейшым выпадам супраць штампу ў вабарону вольнае літаратуры. З самага пачатку верш гіранічна абыгрывае цэнзурныя забароны і называе свае шляхі звароту да паэтаў Заходняй і Ўсходняй Эўропы "сакрэтнаю поштай". Дзеля таго, што за мяжой бадай-што ніхто ня мае Пушчавых твораў, я дазволю сабе працытаваць гэты верш цалкам:

*Ня змогуць завесьціся ў словах мікробы,*
*Патруганы ўсе сулімою і воцтам.*
*Поэты Заходняй, Усходняй Эўропы,*
*Вам ліст пасылаю сакрэтнаю поштай.*

*Вялікую страту дзяржавам угыніць:*
*Ня возьмуць з яго ні цэнзурных, ні мытных.*
*Паэты, хто дзьверы з вас першы адгыніць?*
*Хто хога пагуць беларускія рытмы?*

*Даўно вы паэзіі ўжо ня гыталі,*
*Абрыдла як вам і жыцьцё і плянэта!*
*А ў нашай краіне пад гукі цымбалаў*
*Уцешныя песьні сьпяваюць поэты.*

*У пушгы шумлівай, дуброве зялёнай*
*Мы ловім і любім таемнае штосьці;*
*Там нашы эстрады, там нашы салёны,*
*К нам вецер увосень заходзіць у госьці.*

*Яго мы гастуем рабінавым сокам, —*
*Каб ведалі толькі, якая ў нас восень!*
*Ліст кожны ўзьвіваецца ў неба высока*
*І віхры між зорамі белымі носяць.*

*У нашых прасторах шмат казагных шумаў...*
*Ці быў хто калі з вас у нашым Палесьсі?*
*Ці багыў, як сінія хвалі сумуюць?*
*А людзі сьпяваюць спрадвегныя песьні.*

*У гэтым сягоньня і наша уцеха,*
*Ад гэтых вось песень мы й вугымся ладу.*
*Поэты у нас не разьбіты на цэхі,*
*Ніхто не складае дакугных балядаў.*

*Ў нас новыя творацца песьні і жанры, —*
*Ня любім мы толькі кляймо на іх ставіць.*
*Паслухайце раніцай, вегарам раньнім,*
*Як ветры старонкі кніг нашых лістаюць.*

*Мы блізкія сёньня людзям і прыродзе, —*
*Ў нас пульсы крывёю зьвярынаю б'юцца.*
*Ці гулі што-небудзь аб нашым народзе?*
*Ці гулі што-небудзь аб вегным бяспуцьці?*

*Ліст гэты пішу я да вас з Беларусі,*
*Дзе зоры вагэй аніколі ня плюшгаць...*

*Вітаньне з паклонам зрываецца з вуснаў, —*
*Бывайце, бывайце!.. вітае вас*
*Пушча.* 83)

Язэп Пушча надзвычайна ўзбагаціў сродкі выяўленьня ў маладой пасьлярэвалюцыйнай беларускай паэзіі, абнавіў разуменьне вобразнасьці, надаў паэзіі сілы гучаньня самабытнага арыгінальнага беларускага слова з самых нетраў беларускае вёскі, узьняў значэньне беспасярэдняе шчырасьці і праўдзівасьці, даў узоры лірычна-пэйзажнага вершу, як і ліра-эпічнае паэмы, натхненых вялікімі ідэямі жывое і палкае любові да Бацькаўшчыны і яе ўзвышэньня. Гэта быў наш нацыянальны паэта, і мы яго ўсе любілі менавіта як такога.

Пасьля выхаду зборніка "Песьні на руінах" улетку 1929 года, я ўважліва колькі разоў перачытаў яго і адразу-ж напісаў артыкул "Наш Пушча", які тады-ж аднёс для друкаваньня ў газэту "Чырвоная зьмена", дзе тады загадваў літаратурным аддзелам малады празаік Мікола Нікановіч. Той перачытаў яго ў маёй прысутнасьці і выказаў меркаваньне, што зробіць спробу праціснуць яго ў друк пры нагодзе, калі ня будзе пярэчаньняў з боку рэдактара. І вось я чакаю з нядзелі на нядзелю зьяўленьня майго артыкулу на Літаратурнай старонцы тае газэты. Але-ж нешта доўга артыкул не зьяўляўся. Аж аднае нядзелі ў гарадзкім парку сустракаю Алеся Кучара. І той адразу да мяне зьвярнуўся з просьбай, каб я забраў свой артыкул пра Пушчу з "Чырвонае зьмены", бо там я нібыта даў памылковую ацэну паэтавай творчасьці і што пасьля такога артыкулу мне не паздаровіцца ў БелАПП'е, які якраз тады ўтварыўся з "Маладняка". Тады-ж Кучар паведаміў мяне, што і ён напісаў пра Пушчу артыкул і таксама аднёс яго ў "Чырвоную зьмену", але Мікола Нікановіч адмаўляецца прыняць ягоны артыкул, бо мой ужо прыняты быў раней за Кучараў. Дзеля таго, што спрытны Айзік ужо раней мяне быў прыняты ў БелАПП і адыгрываў там ролю актывістага, часта на сходах паласкаў языком і мог сапраўды нягодную ролю згуляць са мною, я здаўся і тады-ж забраў свой артыкул і адклаў да лепшых часоў. Пазьней зьявіўся ў "Чырвонай зьмене" Кучараў артыкул. І от-жа было зьдзіўленьня, калі я прачытаў назоў Кучаравага артыкулу: "Пушча ня наш" — якраз перароблены на адмоўны мой назоў.

Пазьней Лукаш Калюга і Сяргей Астрэйка, даведаўшыся пра гісторыю Кучаравага артыкула, вельмі шкадавалі, што я паддаўся слабасьці і дапусьціў Кучараў артыкул, забраўшы свой, на балонкі юнацкай газэты.

Ня прыходзіцца і казаць, што адзіны, як на кнігу, водгук, той Кучараў артыкул даў ладную долю дзёгцю, якім савецкая вульгарызатарская крытыка тыпу Лукаша Бэндэ або С. Канакоціна чарніла творчы твар нашага выдатнага паэты. Я і сам пазьней шкадаваў, што так выйшла. І да сяньня шкадую, што той мой першы артыкул пра Язэпа Пушчу і пра найбольш любімы мною зборнік беларускае паэзіі гэтак і загінуў у агні ваенных падзеяў. А сяньня было-б цікава чытаць тыя думкі, якія будзіла тады ў маладым аматары беларускай літаратуры паэзія лепшага майстры паэтычнага слова. Частковай кампэнсацыяй тае ўтраты аўтар і разглядае гэты свой цяперашні нарыс пра Язэпа Пушчу, пра якога цяпер ужо прыходзіцца пісаць не па сьвежых сьлядох ураженьняў маладога чуйнага сэрца, а ў згодзе з развагамі чалавека на схіле жыцьця. Аднак мушу прызнацца, што ў адным застаўся нязьменным, гэта ў нязгаснай любові да музы паэты, з якою выходзіў на літаратурную дарогу бадай-што чуць ні сорак гадоў таму назад. Дарма, што цьвярозая рэфлексія не дазваляе абыйсьці цяпер тыя бакі Пушчавай творчасьці, якія былі данінай часу і тагачаснай моды (прыкладам, крайні імажынізм, захапленьне вобразам дзеля вобраза, паўтарэньне дзе-якіх параўнаньняў і дэталяў, прыкладам — варыянтаў тых-жа восеньскіх лістоў у краявідах і інш.), але засталася павага да галоўнага і ўсяго лепшага, што становіць сутнасьць Пушчавай паэзіі. А яно якраз і цяпер робіць ня меншае ўражаньне і будзіць жывы водгук у пачуцьцях і думках чытача, сьведамага сваёй апрычонасьці і валодаючага пэўнаю літаратурнаю культураю і густам, здольнасьцяй да ацэны і вызнаньня літаратурна-эстэтычных вартасьцяў. У разуменьні такога ўдзячнага чытача творчасьць Язэпа Пушчы заўсёды была і будзе адным з вышэйшых асягненьняў беларускае нацыянальнае літаратуры, а сам Пушча будзе заўсёды заставацца ў сьведамасьці вялікшым нацыянальным паэтам найноўшага часу ў гісторыі Беларусі і ейнае культуры.

## *11. ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСЬНЯ ЯЗЭПА ПУШЧЫ*

На пачатку 1930 году Язэп Пушча наважыўся крыху зьмяніць сваю тактыку паводзінаў і задэманстраваць, што паэта не варожы сацыялістычнаму будаўніцтву. Яшчэ ў 1929 годзе ён друкуе аа балонках "Узвышша" цыкль вершаў "Сьнежаньская сьвежасьць" і "Маўклівая радасьць мая", што несьлі ўжо пэўны зарад больш аптымістычных настрояў. Праўда, та-



кія настроі цяжэй даваліся Язэпу Пушчу, і ён сам прызнаваўся, што "ўцеху" прышлося "весьці за повад", а тая "ўпіналася крыху, ня йшла, ня верыла ягоным настроям". Аднак дарожныя настроі хуткага пабачаньня сям'і і радзімы надалі рытмам таго цыклю пачуцьця радасьці і веры ў творчыя здабыткі узвышэнцаў. Зварот да сяброў-узвышэнцаў гучаў на поўны голас чалавека, які ў яднаньні з роднаю зямлёю чэрпае новыя сілы для творчага ўзьлёту.

*Браты мае, мае сябры,*
*Мы словы песень росьцім!*
*На ўсходзе заўтрашняй зары*
*Хагу быць вашым госьцем* 84)

У 1930 годзе Язэп Пушча друкуе скіраваны супраць польскіх акупантаў "Крывавы плякат", які выйшаў і асобнай кніжыцай пасьля зьяўленьня на балонках "Узвышша". Тады-ж пачалі зьяўляцца на балонках "Узвышша" разьдзелы з новае паэмы "Сады вятроў", пра сатырычны бок якое мы ўжо пісалі вышэй.

Неўзабаве пайшлі пагалоскі, што Язэп Пушча "перабудоўваецца". Неўзабаве паэта змог асабіста сустрэцца з шырокімі чытацкімі коламі ў Менску і ўвачавідкі пераканацца ў сваёй шырокай папулярнасьці сярод народу .Дарма, што "зьмена вяхоў" намі часьцей успрымалася, як прыстасавальніцтва, але тут, у адносінах Пушчы мы разумелі і даравалі яму гэтую неабходнасьць, у імя таго, каб зьберагчы паэта для літаратуры.

У пачатку 1930 году ў Менскім Доме працаўнікоў асьветы адбыўся вялікі вечар з выступам паэтаў і пісьменьнікаў. Заля была перапоўненая студэнтамі і настаўнікамі. Афіцыйныя прамоўцы — Будзінскі і іншыя — гаварылі шмат аб г. зв. "клясавым змаганьні" ў літаратуры, кулацкіх ухілах і г. п. Усё гэта прапушчалася вушамі, як даніна казёншчыне і вымаганай афіцыйшчыне. Але вось, нарэшце, пачаліся выступы паэтаў. Праз некаторы час старшыня вечару абвяшчае, што будзе выступаць з чытаньнем твораў Язэп Пушча. Заля адразу насьцеражылася: гэта-ж той самы страшны аўтар славутых, расьпісаных ужо партыйным друкам у самых чорных хварбах, "Лістоў да сабакі". Ураз устанавілася цішыня, усе нібыта замерлі. Чакаюць... І вось, па сцэне да трыбуны ідзе малады, нявысокі, але элегантны ў сваім цёмным гарнітуры чалавек. У ягонай руцэ відаць невялічкія балонкі паперы. Ён спыняецца каля трыбуны, павольна кладзе свае паперкі на яе і на момант застывае дапытлівым зрокам на публіцы. І перад ёю з вока на вока стаяў і цікаваў кемлівымі вачамі той самы "грэшнік", які нібыта гэтак сьціпла і разам з тым даверліва прасіў зьлітавацца і дараваць яму ягоныя слабасьці. Ува ўсёй ягонай постаці і крыху схіленай убок галаве было цяпер гэтулькі сымпатычна-прывабнага, беспасярэдня-прыемнага і разам з тым штосьці ад дзіцячае несапсаванасьці, што адразу пачалі разьвейвацца і зьнікаць уяўленьні, створаныя друкам, як аб нейкім параджэньні пекла. Перад аўдыторыяй стаяў поўны даверу і адкрытасьці юнак паводле выгляду і разам з тым ужо добра знаны, хоць і не заўсёды з добрага боку, нават славуты за пэўныя творы беларускі паэта. Стаяў як-бы перад судом свайго народу і чакаў ягонага вырашальнага, канчальнага слова. Відаць, паэта быў узрушаны тэю сустрэчаю ў такі крытычны для ягонае творчасьці час, калі ад кажнага прамоўленага слова мог залежаць ягоны лёс. Сама-ж сустрэча пэўне-ж будзіла скрытую радасьць магчымасьці праверыць свае слова на жывым кантакце з тымі, якім слова паэта і прызначаецца. Гэтая радасьць бяз словаў была ня чужая і пэўнай частцы аўдыторыі, больш абазнанай з творчасьцяй маладых паэтаў Беларусі і радай бачыць аднаго з паважнейшых з іх тут цяпер сваімі собскімі вачыма. Нябачаныя ніткі сувязі з сьветам паэты прасяклі аўдыторыю і тварылі пэўнае магнітнае поле, што поўніла сэрцы многіх прысутных радаснай надзеяй пачуць і адчуць вартасьць паэтавага чытаньня собскага паэтычнага слова.

Неўзабаве тая маўклівая радасьць чаканьня была перапыненая самім паэтам. Лагодным, мяккім, але выразіста-пастаўленым голасам ён абвяшчае для чытаньня ўрывак з паэмы "Сады вятроў". І раптам палілася музыка словаў, пры якіх міжвольна згадваліся словы з "Ліста да паэтаў":

*Поэты, хто дзьвры з вас першым адгыніць?*
*Хто хога пагуць беларускія рытмы?* 85)

Беларускія рытмы гэтак і пераліваліся гучнасьпеўнасьцяй у чытаньні Пушчы, словы зьляталі з вуснаў паэты і клаліся ў шыхт музычнай дапасаванасьці, а ўвесь строй верша гэтак і адбіваў сабою прылівы і адлівы новых настрояў:

*Сады, сады вятроў —*
*Настроі вольных песень!*
*Гарагая гамоніць кроў*
*І навявае сьвежасьць.*
*Я слухаць буду плоць,*

*Яна мне сьпеў сагрэе;*
*Зарослы сад палоць*
*Пад шум лістоў на дрэве.*
*Павырываю ўпыр*
*Атруты горкай зельле,*
*І ўсіх, усіх упір*
*Ніжэй травы прыземлю.*
*Абступяць ветры там*
*Мяне вясёлым тлумам.*
*Душу сваю аддам*
*За братні пацалунак.*
*Ўсіх правяду ў сады*
*Пуцінай нехаджалай.*
*Пакінема сьляды,*
*Ад берага адгалім.*
*Ня будзем шкадаваць,*
*Што жыць нам давялося.*
*Агні зарніц гараць*
*Над нашым сьветлым лёсам.*
*Каля старых баляс*
*Хай моляцца паэты;*
*Я-ж пакажу для вас*
*Сады усёй плянэты.*
*На ўзмор'і ў шторме слоў*
*Пагуеце прыліўы...*
*Я ў рукі ўзяў вясло,*
*Вяслую з поўнай сілай.*
*Бег хваль люблю лавіць,*
*Люблю жыцьцё бязьмерна.*
*Як пголы у вульлі,*
*Так словы не адмерлі.*
*Мінулы дзень стары*
*Сплывае ціхім бродам.*
*Нам новае тварыць*
*Напісана ад роду.* 86)

Гэта была Уверцюра да паэмы "Сады вятроў". Далей Пушча прачытаў колькі дыялёгаў з прамовы Грыміцкага, лірычнага гэроя паэмы, які выказваў намер перабудавацца і тварыць у сугуччы з эпохай. І хаця-ж словы Грыміцкага, ягоныя прызнаньні мінулых грахоў і заяўкі на адлюстраваньне сучаснасьці гучалі ў паэме адно дэклярацыйна, аднак слухачы ацанілі культуру валоданьня словам і сустракалі кажны ўрывак гучнымі воплескамі. І калі грамада ў паэме даруе колішнія грахі і дакляруе паэту вызнаньне яго сваім ("Жыві, паэт! Жыві, ты наш"), уся аўдыторыя аж выбухнула гучнымі апладысментамі, што цягнуліся колькі хвілінаў і доўга калыхалі рэхам узбуджанае паветра вялікае залі Менскага Дому настаўніка. Гэта была як-бы і найвялікшая народная маніфэстацыя шчырай любові народа да майстры роднага слова. Я сам пасьля тых воплескаў доўга яшчэ адчуваў зьбітыя далоні, якімі я аж надта стараўся выбіваць як найгучнейшыя адобраньні свайму паэту, што нават людзі, што сядзелі перада мною, дарма, што самі пляскалі ў далоні вельмі актыўна, абярнуліся да мяне і выказалі паглядам зьдзіўленьне з мае стараннасьці.

Уся заля пад уплывам паэтавага чытаньня нібыта перарадзілася і, пераканаўча адчуўшы моц сьвяжыні крыніцаў роднага слова, зьлілася ў адзіным і ўсім агульным энтузіязьме адобраньня і вызнаньня нашага песьняра. І сярод іх можа найбольшымі пераможцамі адчувалі сябе мы, каторым паэтычнае мастацтва Пушчы было не навіною, даўно знаным і ацэненым, а цяпер дадатна прынятым і шырокімі коламі, у чым мы маглі бачыць і свой трыумф, пацьверджаньне нашае далёка-бачнасьці і кампэтэнтнасьці ў мастацтве.

Мы вярталіся з таго літаратурнага вечара яшчэ больш пераконанымі ў нашай рацыі, што да паэзіі Пушчы, гэтак і наагул, што да высокіх вымогаў у галіне літаратуры. Нам тады здавалася, што ўсё-ж такі праўда і справядлівасьць нарэшце перамагаюць. А нам гэтага асабліва жадалася. Унутры ў нас заўсёды жыло адчуваньне, што ўсё страшное, што рабілася, у тым ліку разбой на літаратурным фронце, мінецца і мусіць хутка. Нас ніколі не пакідала пераконаньне, што ліхое доўга ня трывае, ня можа трываць, бо занадта яно антылюдзкае і кідаецца ў вочы кажнаму, у каго жыве імкненьне да больш дасканалага і чалавечага. На зьмену ненармальнаму стану мусіць прыйсьці больш цьвярозы падыход і да літаратуры, мусіць адбыцца пераацэна капітоўнасьцяў і рэчы мусяць заняць адпаведнае іхняй вартасьці месца. Мы радаваліся, што імені Пушчы вяртаецца належная пашана і паэта здолеў знайсьці словы звароту да чытачовае душы.

Пазьней, увесну 1930 году я даведаўся, што ўжо набіраўся новы зборнік Пушчавай паэзіі пад назовам "Грэшная кніга". Сам той назоў ужо даводзіў, што аўтар укладаў у яго шмат свае гіроніі і, пэўна-ж, ён быў, няйначай, як гіранічным выкпіваньнем афіцыйных дамаганьняў вызнаньня творцаю ідэялёгічных ухілаў. Мы адчулі за самім назовам таго-ж нашага паэта-сатырыка, які прыхоўвае сваю сутнасьць пад маскаю вызнаньня па форме, а выкрываньня па сутнасьці тыповай зьявы тых страшных часоў ідэялёгічнага перасьледу ўсіх іншамысных.

Але нядоўга нам прышлося цешыцца нашымі меркаваньнямі. Аднаго ліпеньскага гарачага дня я выйшаў на спацыр і ўжо дайшоў быў да гарадзкога сквэрыка на Пляцы Волі, калі неспадзеўкі спаткаў свайго сябру Сяргея Астрэйку. Ад яго я і даведаўся пра вельмі і вельмі сумную вестку. Папярэдняе ночы былі арыштаваныя многія беларускія культурныя дзеячы, разам із імі ГПУ забрала ў свае каменныя лёхі і нашых улюблёных Уладзімера Дубоўку, Язэпа Пушчу ды Ўладзімера Жылку. Заадно арыштаваныя былі і Адам Бабарэка, Антон Адамовіч ды драматург В. Шашалевіч. Пазьней даведаліся, што ў турму былі кінутыя і Максім Гарэцкі, і Язэп Лёсік, і Вацлаў Ластоўскі, і Аляксандар Цьвікевіч і багата іншых носьбітаў слаўных і заслужаных у гісторыі беларускай культуры й навукі імёнаў.

Неўзабаве загаварылі аб контррэвалюцыйнай змове беларускіх нацыянал-дэмакратаў і дзейнасьці г. зв. "Саюзу Вызваленьня Беларусі". Арыштаваным закідалася антысавецкая палітычная дзейнасьць і спробы адарваць Беларусь ад г. зв. "сям'і народаў СССР" і далучэньня да капіталістычнага Захаду. І ў тым сьвятле сталася ясным, што тое пачутае і такое натхняльнае слова паэты было сапраўды апошняю, "лебядзінаю", паводле вызначэньня маладога крытыка Цітова, песьняю Язэпа Пушчы. Перавагамі благога лёсу была задушаная ў самым росквіце і спыненая найбольш нацыянальна дасьпелая і сьведамая, вызвольная песьня магутнага сокала, які ніколі не зманіў і сьпяваў адно сумную шчырую, самую ўзьнёслую і самую акрыляючую песьню.



### *12. У ВЯНОК ГЭНІЮ "НАРОДАЎ ЗАБРАНЫХ"*

Цэлую чвэрць стагодзьдзя з гакам Язэп Пушча быў выкрэслены з ліку не адно існуючых, але і існаваўшых у беларускай літаратуры. Ягонае імя нават ня згадвалася ў кнігах па беларускай савецкай літаратуры. Адно замяжой, у вольным сьвеце, і можна было памянуць добрым словам імя таго, хто быў праз усе дваццатыя гады гонарам і надзеяй маладой паэзіі. Пра Пушчу пісаў у кнізе "Апазіцыя савецізацыі ў беларускай літаратуры" (на ангельскай мове) Антон Адамовіч. Неаднаразова давала месца Пушчавым вершам газэта "Бацькаўшчына", а таксама нью-ёрская газэта "Беларус". А ў красавіку 1961 году Язэп Пушча стаўся фактарам шырокіх міжнародных культурных кантактаў. На сустрэчы студэнтаў і сяброў факультэту палітэхнічнага інстытута ў амэрыканскім горадзе Трой у штаце Нью Ёрк з ведамым індыйскім філёзафам, палітыкам, паэтам, навукоўцам і гуманістым, доктарам Амія Чакраварты, колішнім сакратаром Рабіндраната Тогара, яму быў перададзены пераклад у ангельскую мову разам з арыгіналам вершу Язэпа Пушчы "Рабіндранату Тагору".

*TO RABINDRANATH TAGORE.*

*by Yazep Pushcha.*

*Foreigners have sought to deprive my people of glory,*
*And to stain their hearts with bloody wounds.*
*Oh, Pride of Bengal, Glory of Benqal!*
*Oh, Genius of annexed peoples!*

*Through the elements I pray in my song to thee,*
*And bend my knee on a wild burial mound.*
*Flowers of blood have sprung up in Byelorussia,*
*My dear poet, my beloved poet!*

*Evening-glow and the dawn are blooming in the sky,*
*Spaciousness in all it's beauty.*
*Far away in miles, but close in songs,*
*I'll cover your ways by flowers.*

*Walk on them, walk, long-awated:*
*Your footprints will remain the holy ones.*
*I'll embrace you, like father, in my arms, —*
*Feelings survive for ever.*

1926, Minsk, Belorussia.

NOTE: In the fall of 1926, Rabidranath Tagore was expected to pass through Belorussia, and to stay for a few days in Minsk, capital of Belorussian SSR. Belorussian Literary Society "Uzvyshsha" 'Elcelsoir') prepared a collection of poetry, devoted to R. Tagore, including this poem by Yazep Pushcha. This collection did not appear for Soviet censorship. But later Yazep Pushcha poem appeared in his collection of poetry "DNI VYASNY" ('Spring Days'), Minsk, 1927, p. 65.

Гэты дарунак зрабіў на д-ра Чакраварты вялікае ўражаньне яшчэ і дзеля таго, што ён сам удзельнічаў у якасьці асабістага сакратара Тагора ў часе вандраваньняў апошняга па ўсяму сьвету ў гадох 1926-1933 і памятае той намер Тагора адведаць Беларусь, як краіну, што ў сілу свайго паняволеньня мела асаблівую нагоду цікавіцца творчасьцяй выдатнага змагара з усялякімі каляніяльнымі Ёрмамі на шлях свабодалюбівых народаў. Дзеля перашкод з боку ўладаў Тагору тады не давялося адведаць Беларусь. Але паэтычны верш Язэпа Пушчы і на сёньня гучыць магутным зваротам да сусьветных аўтарытэтаў вызвольнае ідэялёгіі, да ўсяго сьвету з напамінам аб няпрыглядным лёсе "забраных краінаў", Беларусі асобна.

Пазьней, натхнёны Язэпам Пушчаю, малады


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

паэт Сяргей Астрэйка створыць сваю паэму "Бэнгалія", у якой пад выглядам апісаньня Брытанскае калёніі Бэнгаліі даваўся фактычна шырокі абраз каляніяльных парадкаў на Беларусі. Але менавіта Язэп Пушча распачаў аналёгію, што да супольнасьці лёсу і імкненьняў да вызваленьня Бэнгаліі і Беларусі. Таму і Рабіндранат Тагор, гонар і слава Бэнгаліі, вызнаецца імі і за гэнія ўсіх "паняволеных народаў", а вынікі чыноў акупантаў на Беларусі ўцелаўляюцца ў вобразе "кветак крыві". Пушча ў сваім вершы выказаў гэтулькі глыбокага пачуцьця ўдзячнасьці пашаны да Рабіндраната Тагора і ягонае бацькаўшчыны і народу Бэнгаліі, што д-р Чакраварты адразу зразумеў ягоную высокародную ідэю і пры гэтым выявіў добрае запазнаньне з становішчам Беларусі і ейнымі вызвольнымі імкненьнямі.

На разьвітаньне д-р Чакраварты шчыра дзякаваў У. Глыбіннага за кaштоўны для тагоразнаўства дакумант як сьведчаньне жывучасьці і няўміручасьці супольных ідэяў свабоды народаў. Д-р Чакраварты абяцаў неадкладна пасьлаць арыгінальны тэкст і пераклад Пушчавага верша ў Калькуту (Бэнгалію) у Музэй і Архіў Рабіндраната Тагора, каб зрабіць іх аб'ектам вывучэньня для бібліёграфаў, біёграфаў і літаратуразнаўцаў, што вывучаюць Тагарову літаратурную спадчыну і жыцьцё. Гэтак Пушчава творчасьць служыць справе азнаямленьня сьвету з нашымі нацыянальнымі здабыткамі і мэтамі і спрыяе культурным кантактам на сусьветным узроўні. Праз ягоны голас Беларусь заяўляе сьвету аб сваім існаваньні, пакутах, змаганьні і асягненьнях. А пры зразуменьні і запазнаньні бліжэй да ажыцьцяўленьня вялікіх народных ідэалаў.

### 13. ТРЫВАЛЫ ЎСПАМІН.

Вяліай неспадзеўкай быў зварот Язэпа Пушчы ў літаратуру. Калі ў кастрычніцкім нумары часапіса "Полымя" за 1956 год зьявіўся быў Пушчаў санэт "Адаму Міцкевічу", а пазьней і іншыя вершы на балонках таго-ж часапіса, сэрцы ўсіх аматараў ягонае творчасьці напоўніліся былі радасьцяй за лёс паэты, што перартываў усе нягоды і больш чымся праз чвэрць веку аднавіў літаратурную працу..

У 1960 огодзе выйшаў досыць вялікі зборнік вершаў і паэмаў Язэпа Пушчы пад назвай "Вершы і паэмы", а ў 1963 годзе зьявіўся з друку і апошні Пушчаў зборнік цалком новае лірыкі, ужо напісанае пасьля рэгабілітацыі, — "Пачатак легенды". Асобным выданьнем вышла казка "На Бабрыцы". А пасьля сьмерці паэты (памёр 14 верасьня 1964 году) у кнізе-зборніку розных аўтараў "Дзень паэзіі" у 1965 годзе зьявіліся Пушчавы вершы, напісаныя ў выгнаньні, "З недасланых лістоў". За вылучэньнем "Недасланых лістоў", уся новая творчасьць Язэпа Пушчы ўжо становіць сабою зусім адменны пэрыяд, калі ейны аўтар ужо стаўся нявольнікам існуючых вымогаў пісаць аб любові да агульнае савецкае радзімы, Леніна,усхваляць кіруючаю ролю Расеі і партыі. Натуральна, што як савецкі паэта, Пушча аддаў даніну такой тэматыцы.

Праўда, і тут можна прасачыць, як паэта часта застаецца верным сваім паэтычным сродкам асэнсаваньня і творчага адтварэньня характва бацькаўшчыны, прадоўжвае даўно абраны і гадамі выпрабаваны шлях лірычнага паэты з асобай замілаванасьцяй да вобразатворчай функцыі беларускае мовы, любоўю да народна-напеўнае лексыкі і строфікі.

Можна з прыемнасьцяй адзначыць, што Пушча нават ува ўмовах панаваньня г. зв. "сацыялістычнага рэалізму" застаўся арыгінальным нацыянальным паэтам з высокім культам роднае мовы. Аднак цяпер гэта ўжо неўласьцівы ранейшаму Пушчу паэта-аптымісты. І нават ранейшыя вершы ў зборнік "Вершы і паэмы" падбіраліся з пункту гледжаньня наяўнасьці бадзёрасьці і аптымістычнае веры. Цяперашні Пушча мусіў адбіраць з свае літаратурнае спадчыны для гэтага зборніка адно такія рэчы, якія ўяна не пярэчаць сучаснай савецкай літаратуры. Таму туды і ня трапіла лепшая Пушчава паэма "Цень Консула" і шмат якія вершы дваццатых гадоў. А многія, калі і трапілі ў "Вершы і паэмы", дык у з'іначаным выглядзе. Прыкладам, "кветкі крыві" ў вершы "Рабіндранату Тагору" перароблены ў "кветкі красы". Верш "У прасторы зоры..." пазбавіўся сваей другой паловы, дзе гаварылася аб гвалце, што цярпяць "пакорнасьці сыны". У вершы "Ліст да паэтаў" апошні радок з перадапошняга чатырохрадкоўя — "Ці чулі што-небудзь аб вечным бясцуцьці..." — заменены іншым: "Ці чулі, як рэчкі крынічныя льлюцца?" Пакалечанай і значна скарочанай трапіла ў "Вершы і паэмы" паэма "Песьня вайны", з якое скрэсьлілі ўсе разьдзелы і строфы нацыянальна-патрыятычнага характару, відаць, вызнаваныя цяпер за "буржуазна-нацыяналістычныя". З тых-жа прычынаў, відаць, трапіла пад забарону выдатная паэма "Цень Консула".

Так што будучым укладальнікам твораў паэты прыйдзецца шмат папрацаваць, каб аднавіць сапраўднага Пушчу паводле першых выданьняў ягоных зборнікаў і, калі захаваліся дзе-небудзь у архівах, рукапісаў і тэксту забароненае "Грэшнае кнігі". Бо толькі там выказваўся шчыра і без аглядкі на вымогі і адлюстраваўся ў стыхійных радкох сапраўдные творчасьці паэта. Толькі ў творчасьці дваццатых гадоў, у кнігах, друкаваных і недрукаваных вершах таго часу Язэп Пушча на ўсю моц выступае як трагічны паэта, поўны болю і крыві, пакутлівых пачуцьцяў і роздуму аб бацькаўшчыне, зыркіх фарбаў ягонае чулае да болю краіны й народу душы. Незадаволенасьць і расчараваньне рабілі яго хвалюючым і прыцягальным для чытачоў маладое Беларусі. І толькі Пушча пакінуў пасьля сябе доўгатрывалы і ўдзячны ўспамін, які не сатрэ ні час, ні ліхія падзеі ў жыцьці нашага пакаленьня.

Калі-ж цяпер Пушчу ў БССР падганяюць на адзіны капыл аптымістага і бадзёрага савецкага патрыёта, дык пры гэтым застаецца адно пакепліва ўсьміхнуцца з перакананьнем, што штучна-шчасьліваму чалавеку ня будзе месца ў сапраўдным мастацтве слова, бо яму няма чаго сказаць чытачу, ён ня будзе мець нічога для лірычнае споведзі, без якое нельга сабе чыстае лірыкі і ўявіць. Пушчава-ж творчасьць дваццатых гадоў была такой споведзяй чалавека, які параніў сваё сэрца любоўю да роднага краю і шчыра дзяліўся з намі песьнямі трагічных матываў свайго душэўнага сьвету. І дарма, што да такога Пушчы цяпер у чытача адчынена магчымасьць адно ў вольным сьвеце, аднак я пэўны, што не за гарамі той час, калі паэтавы скарбы будуць адчынены ўва ўсёй сваёй непадробленасьці тым, каму паэта не баяўся расчыняць "грахі душы" і аб чыім шчасьці ён трызьніў у сваіх паэтычных бачаньнях. І тады ўжыцьцявіцца тое спатканьне народу з сваім паэтам, якое прадбачылася ім, калі пісаў:

*Сілы марна не растраганы,*
*Пакідаю песьню ў спадгыну.* 78)

### БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ ЗАЦЕМКІ

77) "Песьні на руінах", бал. 109-110.
78) Там-жа, бал. 110.
79) Там-жа, бал. 164.
80) Таам-жа, бал. 159.
81) Там-жа, бал. 159.
82) Там-жа, бал. 159-160.
83) Там-жа, бал. 119-120.
84) "Вершы і паэмы", бал. 56.
85) "Песьні на руінах", абл 119.
86) "Вершы і паэмы", бал. 186-187.
87) Язэп Пушча. "Пачатак легенды". Лірыка. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Менск, 1963, бал. 13.



# ЯЗЭП ПУШЧА

*(Да сямідзесяціпяцігодзьдзя з дня нараджэньня і 14-ай гадавіны з дня сьмерці)*



Язэп Пушча (Язэп Паўлавіч Плашчынскі) нарадзіўся 7 травеня 1902 г. у вёсцы Каралішчавічы Менскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу (1913), Менскае вышэйшае пачатковае вучылішча (1917) і курсы беларусазнаўства пры Народным Камісарыяце Асьветы БССР. Пасьля працаваў у Мазырскім і Менскім павятовых аддзелах народнае асьветы, выкладаў мову і літаратуру на курсах і ў школах.

У 1929 г. скончыў Ленінградзкі унівэрсытэт. У 1930 г. быў асуджаны органамі ГПУ на пяць гадоў ссылкі. Пасьля настаўнічаў у школах Уладзімераўскай вобласьці РСФСР. У часе вайны служыў у арміі. Пасьля вайны працаваў дырэктарам сярэдняй школы ў вёсцы Чаадаева, Мурманскага раёна, Уладзімераўскай вобласьці.

Усё хацеў, каб як астыць
Пад ветра сьвіст з прысад.
Атрымаць лісты, лісты...
Ніяк ня здолеў адрэсат.
Знаць ня знаю — жыў ён, не,
Ці блудзіць з хэўрай валацуг?
Толькі крук тырчыць ў сьцяне,
Чаплялі за які ланцуг.
Дом зусім, зусім раскрыт,
Цяпер я ў ім вартую сінь.
Бачыш стыль які і рытм,
Замест бацькі піша сын.
Добры мой, лісты твае
Калі мне прачытаў твой брат,
Гойсаць стаў я па траве
І пасабачаму стаў рад.
Выць пачаў на Млечны Шлях,
Каб ён яшчэ сьвяціў ярчэй,
Пасьля лёг каля шула
І сьлёзы хлынулі з вачэй.
— Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
Я штоночы і штодня
Ня маю радасных гадзін.
Добры мой, пішы яшчэ,
Пішы навіны мне свае.
З песьняй жыць куды лягчэй,
Душа ня хоча з ёй сівець.
Часта я гляджу у даль,
Ці вобраз твой ня ўбачу там?
Разьвявае лёгкі шаль
Ў даліне сонечны туман.
Не пайду я з-пад вакна, —
Твой чую крок ў людзкой хадзьбе.
Увесну, як прыедзеш к нам,
Я першы абніму цябе.
Выйду, стрэну ля варот, —
Так, такі ўжо ў нас закон.
Будзе мой сьмяяцца рот,
І цалавацца буду языком.
Знаю знаю, ты жывы,
Цябе ніхто не запражэ...
Будзь-жа, будзь здароў, жыві;
Цябе цалуе моцна Жэк.

### З ВЫДАВЕЦКАЕ НІВЫ

**"ПРАВАСЛАЎЕ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ ЗА ЧАСОЎ ПАНАВАНЬНЯ УЛАДЫСЛАВА ЯГАЙЛЫ."**

Так называецца магістарская дысэртацыя протопрасьвіцера Мікалая Лапіцкага, якую ён абараніў у 1934 г. пры заканчэньні Багаслоўскага факультэту Варшаўскага Унівэрсытэту. Цяпер, у гэтым 1978 годзе, гэтую працу ў памяць свайго "незабыўнага мужа" выдала друкам матушка Валянціна. Дысэртацыя была напісана на польскай мове, і на беларускую мову пераклаў протопрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш. У кнізе маецца разгорнутая біяграфія сьв. памяці М. Лапіцкага, умела напісаная інж. І. Касяком. Біяграфія ілюстравана шматлікімі фатаграфіямі з жыцьця і дзейнасьці нябожчыка.

Тэма, за якую ўзяўся студэнт Мікалай Лапіцкі, і да яго, і пасьля яго нікім не парушалася. Тэма цікавая, але цяжкая для распрацоўкі, бо, як піша аўтар, "Тут маецца такая награмаджанасьць супрацьлежнасьцяў, што найсьвятлейшыя розумы пры расьсьвятленьні цемры, панаючай у гэтай галіне, губляюцца ў лябірынтах і замiж распутаць, будуюць новыя запоры на дарозе да адшуканьня гістарычнае праўды сваім наступнікам." І ўсё-ж, мне здаецца, ня гледзячы на недастатак першакрыніцаў, аўтару ўдалося выбрацца з "лябірынтаў" і добра "расьсьвятліць" "пануючую ў гэтай галіне" цемру.

Я ня буду пераказваць тут зьмест кнігі, бо яна так зьнітавана пасьлядоўнасьцю падзеяў, так перапоўнена цытатамі із працаў навукоўцаў як расейскіх, так і польскіх ды іншых, што давялося-б перапісваць усю кнігу. Аб тым, што цікавіла аўтара, на чым ён сканцэнтраваў сваю ўвагу можна судзіць на загалоўках разьдзелаў, якіх у кнізе сем. Так, першы разьдзел называецца: "Гістарычны нарыс Вялікага Княства Літоўскага да паловы 15 стагодзьдзя"; другі — "Юрыдычнае палажэньне праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы"; трэці — "Унутраны лад Праваслаўнае Царквы"; чацьвёрты — "Вернікі Праваслаўнае Царквы"; пяты — "Праваслаўныя манастыры"; шосты "Літаратура і мастацтва царкоўныя"; сёмы — "Заканчэньне".

Галоўную думку дысэртацыі трапна адцеміла, мне здаецца, газэта "Беларус" у №258: "У прадмове да свае працы Нябожчык пісаў: "...Беларускую гісторыю амаль што да гэтага часу (г. зн. да 1934 г. — рэд.) трактавалі не як праяў жыцьця крывіцкага народу, народу зусім адрозьненага, самаіснага, але як галіну ўяўленага расейскім цэнтрызмам агульна расейскай культуры".

У кнізе даецца запярэчаньне гэтаму хвальшываму пагляду на мінуўшчыну Беларусі."

Праўда, ня шмат захавалася дакумантаў, на якія мог-бы спаслацца аўтар у падмацаваньне свайго пярэчаньня, і "Літоўскі сфінкс" яшчэ доўга будзе заставацца таямнічным.

Кніга "Праваслаўе ў Вялікім княстве літоўскім за часоў панаваньня Уладыслава Ягайлы" — цікавы крок па лябірынтах сфальшаванае гісторыі да разгадкі таямніцы "Літоўскага сфінкса".

**Язэп Лешчанка.**



# Сьв. пам. Алесь Салавей



**З далёкай Аўстраліі прышла сумная вестка: 22 студзеня 1978 году раптоўна памёр там таленавіты беларускі паэта Алесь Салавей.**

Сапраўднае прозьвішча Алеся Салаўя — Альфрэд Радзюк, але на эміграцыі ён жыў пад прозьвішчам Альбэрт Кадняк, якое ён прыбраў сабе ўжо пасьля вайны, у Аўстрыі.

Нарадзіўся Алесь Салавей 1 травеня 1922 г. у вёсцы Крысава, Лагойскага раёна, Менскай вобласьці. Пачатковую школу скончыў у сваёй роднай вёсцы, а сярэднюю асьвету атрымаў у пэдагагічным тэхнікуме ў Лагойску. Пасьля сканчэньня тэхнікума працаваў у рэдакцыі лагойскай раённай газэты, у якой і пачаў друкаваць свае раньнія вершы. Пазьней студыяваў журналістыку на Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску.

У 1937 годзе малады паэта перажыў трагедыю арышту бацькі, а за ім і маці. Бацька быў на допытах закатаваны насьмерць, а маці засудзілі на 10 год зьняволеньня ў лягерох. Пасьля сьмерці Сталіна абое былі рэабілітаваныя.

Падчас Другое сусьветнае вайны паэта працаваў нейкі час ў Беларускай Народнай Самапомачы ў Менску, а пасьля — у беларускай адміністрацыі ў Вялейскай акрузе. Быў актыўны на беларускай культурна-грамадзкай ніве.

Як вядома, з пачаткам нямецка-савецкай вайны ў 1941 годзе, адразу пасьля прыходу немцаў палякі ў былой Заходняй Беларусі, сарганізаваўшы паліцыю й захапіўшы самаўрадавую адміністрацыю ў свае рукі, павялі дзікі тэрор супраць беларускага актыву. Не абмінуў ён і Алеся Салаўя. Увосень гэнага году ён быў бяз ніякай прычыны ў Ільлі, Вялейскай акругі, імі арыштаваны з мэтай фізычнага зьнішчэньня. І толькі дзякуючы стараньням Аляксандра Калодкі, ведамага беларускага дзеяча, паэта быў звольнены з-пад арышту.

У 1944 г. у Рызе Алесь Салавей выдаў свой першы зборнік вершаў "Мае песьні". Пад канец вайны ён апынуўся ў Аўстрыі, адкуль пазьней выехаў у Аўстралію. У Вольным Сьвеце Алесь Салавей друкаваў свае творы ў беларускіх эміграцыйных часапісах. Апублікаваў некалькі зборнікаў вершаў.

Кампазытар Кс. Барысавец напісаў музыку на словы ягонага верша "Раса", якая часта выконваецца на канцэртах падчас урачыстых беларускіх сьвяткаваньняў у Нью Ёрку й Саўт Рывэры.

Ніжэй падпісанаму давялося ў 1944 г. пазнаёміцца з сьв. пам. Алесем Салаўём і нейкі час разам працаваць. Быў ён вельмі сьціплым, сумленным, чулым, шчырай душы чалавекам і добрым сябрам.

Нябожчык пакінуў жонку Зіну, двух сыноў і дачку.

Вечная яму памяць!

*У. Б.*

---

*Алесь Салавей*

***

Чорны крук закракаў на ўсё горла,
звоннасьпеўных птахаў пошчак змоўк.
Шэры конь з віхрастай цёмнай грывай
па дарозе з тупатам прабег.
Прагрымеў падковамі, прагрукаў,
выкрасаў на бруку сноп агню.

Гр. Касяк забіраў голас у падтрымку рэзалюцыі прадстаўніка Бурмы, праект якое патрабавалі падагнаць пад эўрапейскі стандарт прадстаўнікі Аўстраліі й Новай Зэляндыі. Рэзалюцыя Бурмы была прынятая з дробнай рэдакцыйнай папраўкай, на якую згадзіўся прадстаўнік Бурмы.

3. На сэмінары "Нацыяналізм як антыкамуністычная сіла" гр. Касяк выступаў два разы, насьвятляючы тактыку камуністычнай Расеі адносна паняволеных народаў і падаў інфармацыйны матар'ял аб Беларусі для ўключэньня ў акты Канфэрэнцыі.

4. Даведаўшыся, што на Канфэрэнцыю запрошаны з прамовай былы асабісты сакратар Сталіна Бажаноў, гр-ка С. Стэцько склікала ўначы 27 красавіка нараду прадстаўнікоў ад паняволеных народаў. Было запрапанавана апусьціць залю падчас прамовы гр. Бажанова, у знак пратэсту. Аднак, на прапанову гр. Касяка было пастаноўлена дабівацца ад старшыні Канфэрэнцыі свайго прамоўцы зараз-жа пасьля Бажанова, каб высьветліць спрэчныя пытаньні ў яго прамове, калі такія будуць, і дапоўніць яго дадзенымі аб паняволеных народах. На прамоўцу быў прызначаны гр. Касяк. Для гутаркі са старшынёй Канфэрэнцыі былі прызначаны: гр. Дочэф — баўгар, гр. Фэдорак — украінец і гр. Касяк — беларус. На гутарку з старшынёй украінец ня прыбыў і гр. Дочэф і гр. Касяк палагодзілі са старшынёй справу прамовы, на што той ахвотна згадзіўся.

Дня 29 красавіка, як упаміналася вышэй, пасьля гр. Бажанова выступіў гр. Касяк, які належна насьветліў няясныя, або спрэчныя справы, што выступілі ў прамове гр. Бажанова. За добрае выступленьне гр. Касяк атрымаў падзяку ад шэрагу дэлегатаў: кітайскага, амэрыканскага, баўгарскага, украінскага й інш.

5. Гр-ка А. Касоўская й гр-ка В. Лапіцкая зьяўляліся на прыняцьцях у багатых нацыянальных вопратках чым выклікалі зацікаўленьне беларусамі ў іншых дэлегатаў. Гр-ка Касоўская інфармавала вусна аб беларускай справе прадстаўнікоў паасобных дэлегацыяў і сям'ю старшыні Канфэрэнцыі.

#### Іншыя справы, што тычаць беларусаў

1. Наступная Канфэрэнцыя ВАКЛ адбудзецца ў Парагваі ў 1979 г.; дата будзе ўстаноўлена пазьней.

2. Да гр. Касяка падыйшоў працаўнік Галоўнай Кватэры ВАКЛ з Карэі й паведаміў, што БВФ папярэдне акуратна аплочваў свае складкі, але за бягучы 1978 г. складка не аплочана. Гр. Касяк абяцаў, што зробіць адпаведныя захады ў гэтай справе.

3. У справаздачы гэнэральнага сакратара ВАКЛ праф Воо было сказана, што некаторыя нацыянальныя сябры ВАКЛ'у зганасілі сваю фінансавую дапамогу для ліквідацыі дамаганьня гр. Смітам (Фуксам) з Англіі, а паміж імі быў пададзены БВФ. Ня ведаючы нічога ў гэтай справе, беларуская дэлегацыя голасу не забірала.

4. Прынята пастанова, што з сяброўства ВАКЛ'у будуць скрэсьлены тыя, хто на працягу трох год ня прымаў удзел ў Канфэрэнцыях ВАКЛ'у.

*І. Касяк,*
дэлегат БВФ на 11-ай Канфэрэнцыі
ВАКЛ у Вашынгтоне.

## КАНГРЭС ПАН-ЭЎРАПЕЙСКАЙ ВУНІІ

У гор. Фрайбургу (Зах. Нямеччына), на граніцы трох эўрапейскіх дзяржаваў —Францыі, Швайцарыі й Нямеччыны, у днях ад 28 красавіка да 1 травеня 1978 г. адбыўся Кангрэс Пан-эўрапейскай Вуніі, ведамай пад назвай Пан-Эўропа.

Ідэя Пан-Эўропы паўстала хутка пасьля Першай сусьветнай вайны. Тады, пасьля вайны, эўрапейскі кантынэнт знаходзіўся ў хаатычным стане. Валіліся падножжы тронаў, дзяржаваў; паўставалі новыя дзяржавы, новыя формы грамадзкага парадку, праўленьня і г.д. Насельніцтва Эўропы знаходзілася ў страху і бядзе. Народы б. Расеі скідалі з сябе царскую няволю і здабывалі сваю незалежнасьць. Дзяржавы-пераможцы тварылі новыя, штучныя, шматнацыянальныя дзяржавы як Югаславію, Польшчу, Чэхаславакію. У б. Расеі трываў крывавы тэрор.

Вось у гэты цяжкі для Эўропы час малады багемец Рыхард Н. Гудэнговэ-Калергі бачыў ратунак для Эўропы ў паразуменьні паміж эўрапейцам — у палітычным аб'еднаньні Эўропы, базаваным на супольнай заходня-эўрапейскай культуры і гаспадарчым супрацоўніцтве. У 1924 годзе ён выдаў першы нумар часапіса "Пан-Эўропа". У 1926 г., на Першым міжнародным Кангрэсе была апрацаваная "Хартыя для Эўропы". Але на шляху аб'яднаньня Эўропы паўставалі цяжкія перашкоды.

Пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны Эўропе пагражаў яшчэ большы хаос і небясьпека. Гудэнговэ ізноў імкнецца праз арганізаваньне Эўрапейскай Парлямэнтарнай Вуніі аб'яднаць Эўропу. Гэтая Эўрапейская Вунія адыграла вялікую ролю пры арганізацыі Эўрапейскай Рады і Монтан-уніон.

У 1972 г. Гудэнговэ-Калергі памёр. Ягонае месца прэзыдэнта Пан-Эўропы абняў др. Отто Габсбург. У 1973 годзе, у Штрасбургу, для Пан-Эўрапейскай Вуніі была апрацавана новая праграма, якая мае аб'яднаць *усю* Эўропу ў вольнасьці і ажыцьцявіць правы нацыі і чалавека для ўсіх народаў Эўропы. Пры актыўным удзеле ўсіх эўрапейскіх народаў ідэя вольнай Эўропы можа адыграць вялікую ролю ў вызваленьні паняволеных Масквою народаў і злучыць іх з народамі вольнай Эўропы.



Пан-Эўрапейская Вунія адыгрывае вялікую ролю ў падрыхтоўцы да першых дырэктных выбараў у Эўрапейскі Парлямэнт у 1979 годзе.

Кангрэс у Фрайбургу прайшоў пад пачэсным старшынствам Міністра-Прэзыдэнта Бадэн-Вюртэмбэргіі др. Г. Фільбінгера. Тэмай Кангрэсу была: "Незалежнасьць Эўропы — Вольнасьць, Еднасьць, Справядлівасьць".

На Кангрэс Пан-Эўрапейскае Вуніі зьехаліся ведамыя эўрапейскія палітыкі, міністры, навукоўцы, урадоўцы, журналісты, паслы ў Эўрапейскі і Краёвыя парляманты з Нямеччыны, Францыі, Англіі, Гішпаніі, Аўстрыі, Люксембургу, Бэльгіі, Партугаліі, Італіі й інш. краінаў, вайсковыя спэцыялісты НАТО і Нямеччыны, эўрапейская прэса і тэлебачаньне. Беларусь і паняволеныя народы СССР рэпрэзэнтавалі гасп-ры Д. Касмовіч і Н. Касмовіч.

#### Прабег Кангрэсу.

28 красавіка 1978 г. горад Фрайбург зрабіў для ўдзельнікаў Кангрэсу прыняцьце у мясцовай гістарычнай каралеўскай залі. Гасьцей прывітаў прадстаўнік горада, былы Бундэсміністар праф. Г. Мэркатц, старшыня нямецкага сэктару Пан-Эўропы, які арганізаваў гэты Кангрэс. Міністар Эдуард Адорно прывітаў усіх прысутных ад імя Бадэн-Вюртэмбэргскага Ураду і сказаў урачыстую прамову, прысьвечаную ролі Эўропы ў сучаснай сусьветнай сытуацыі. Прамоўца падкрэсьліў важнасьць эўрапейскай гістарычнай падзеі — выбараў у Дэмакратычны Эўрапейскі Парлямэнт, якія адбудуцца ў наступным годзе. Міністар Адорно зазначыў, што "Эўрапейскі Парлямэнт ёсьць форумам для духовай і палітычнай вымены думак аб будучыні Эўропы." Сваю прамову ён закончыў словамі: "Нашыя высілкі для Эўропы — высілкі для нашае будучыні."

Пасьля афіцыйнай часткі адкрыцьця Кангрэсу, бургомістр гораду зрабіў прысутным гасьцям прыняцьце, а затым, увечары, у замкавым рэстаране, пры супольнай вячэры, адбылося спатканьне эўрапейскіх прадстаўнікоў і навязаньне цясьнейшай сувязі.

У суботу, 24 красавіка, зранку, дэлегацыя Кангрэсу на чале з др. Отто Габсбургам злажыла вянкі на мясцовых могілках. Затым, а гадзіне 10-ай, таго-ж самага дня Кангрэс распачаў сваю працу. Былі створаны 3 камісіі:

Камісія І займалася праблемаю *Хрысьціянская Эўропа*. Старшынёю камісіі быў др. Г. Айгнэр, сябра нямецкага і эўрапейскага парлямантаў.

Камісія ІІ — *Бясьпека ў Эўропе*. Старшыня — б. брыгадны гэнэрал Гайнц Карст.

Камісія ІІІ — *Справядлівасьць ў Эўропе*. Старшыня — др. Ганс Эдгарт Ян, сябра нямецкага і эўрапейскага парлямэнтаў.

Беларускія прадстаўнікі прымалі ўдзел у працах камісіяў Кангрэсу. Наш прадстаўнік падкрэсьліў важнасьць патэнцыяльнай сілы паняволеных Масквою народаў, у тым ліку і беларускага народу. Гэтая сіла — мацнейшая за атамную бомбу і будзе рашаючай для зьдзяйсьненьня бясьпекі ў Эўропе.

Гаспадар Д. Касмовіч прывітаў прысутных прадстаўнікоў ад імя беларускага народу і ад імя ўсіх паняволеных народаў СССР. У сваёй прамове ён падкрэсьліў, што ягоная прысутнасьць на гэтым Кангрэсе сымбалізуе еднасьць і салідарнасьць беларускага і паняволеных СССР народаў з народамі вольнай Эўропы. Потым гасп. Д. Касмовіч паінфармаваў прысутных аб змаганьні беларускага народу за сваю незалежнасьць, аб пагвалчэньні Масквою асноўных правоў народу і зазначыў, што прадстаўнікі БССР у ААН змушаны выконваць волю Масквы, а ня волю свайго народу. На заканчэньне прамовы гасп. Д. Касмовіч выказаў упэўненасьць, што паняволеныя Масквою народы, у тым ліку і Беларусь, перамогуць камуністычную дыктатуру, здабудуць сваю вольнасьць і незалежнасьць ды ўнясуць свой багаты ўклад у эўрапейскую сям'ю народаў для зрэалізаваньня ідэалаў Вольнасьці, Еднасьці і Справядлівасьці ў Эўропе.

Беларускі прадстаўнік унёс у трэцюю камісію некаторыя прапановы адносна справядлівасьці ў Эўропе на карысьць паняволеных Масквою народаў. Справядлівасьць у Эўропе можа ажыцьцявіцца толькі тады, калі ўсе эўрапейскія народы будуць свабоднымі і незалежнымі. Народы Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы знаходзяцца пад таталітарным, камуністычным рэжымам. Гэты рэжым ігнаруе правы нацыі і чалавека на свабоднае выяўленьне волі народа і чалавека. Дзеля гэтага гасп. Д. Касмовіч запрапанаваў Эўрапейскаму Кангрэсу поўнасьцю падтрымаць імкненьне паняволеных Масквою і камуністамі народаў (сатэліцкіх краін і рэспублік СССР) аднавіць свае вольныя і незалежныя дзяржавы, каб яны маглі свабодна выявіць сваю волю, увайсьці ў вялікую дэмакратычную сям'ю аб'яднанай Эўропы.

Пасьля супольнага абеда Кангрэс прыняў

адпаведныя рэзалюцыі, апрацаваныя камісіямі. У гэтых рэзалюцыях, між іншым, гаворыцца, што Эўропа павінна базавацца на сіле хрысьціянскага гуманізму, які гарантуе свабоду. Эўрапейская Ідэя ёсьць больш чым геаграфічнае паняцьце, яна — уяўленьне парадку ў Эўропе. Сілу і насільле павінны замяніць праўныя ўзаемаадносіны паміж дзяржавамі. Гэты мадэль праўнай, хрысьціянскай Эўропы будзе мець таксама ўплыў на гэтак званы "Трэці Сьвет" і будзе маяком надзеі для змагароў за нацыянальныя і чалавечыя правы народаў у паняволенай частцы Эўропы і ў цэлым сьвеце. Толькі злучаная Эўропа можа гарантаваць усім сваім жыхарам хрысьціянскае, чалавечае жыцьцё і неабходнае сацыяльнае забесьпячэньне.

Каб гарантаваць бясьпеку Эўропы, неабходна ўзмоцніць канвэнцыяльную абарону Эўропы і ўзмоцніць супрацоўніцтва ў НАТО, асабліва эўрапейскіх дзяржаваў. У сувязі з тым, што цяперашняе змаганьне вядзецца супраць дыктатарскага дзяржаўнага сацыялізму, яно магчыма толькі на аснове духовых і маральных сілаў Эўропы. Тут Ідэя вольнасьці павінна быць спалучаная з духовымі каштоўнасьцямі, ахвярнасьцяй для справы і выкананьнем абавязку. Толькі такім чынам народы Эўропы, побач іхняй гаспадарчай сілы, могуць дыспанаваць маральнай, палітычнай і мілітарнай сілай, якая патрэбна для бясьпекі Эўропы.

Далей у сваёй рэзалюцыі Кангрэс Пан-Эўрапейскай Вуніі даслоўна кажа: "Мы хочам для ўсіх эўрапейцаў вольную бацькаўшчыну, іх вольны край у вольнай Эўропе." Пры некаторых няспрыяльных умовах выкананьне гэтага заданьня можа патрабаваць даўжэйшага часу. Таму, для ажыцьцяўленьня гэтай мэты, трэба беспярапынна працаваць. У міжчасе — неабходна палепшыць праўнае становішча чалавека ў Эўропе. Бальшыня эўрапейскіх краінаў Захаду і Усходу ратыфікавалі палітычны дагавор ААН аб правох чалавека. Ажыцьцяўленьне законных абавязкаў палітычнага дагавору аб Правох Чалавека павінна вымагацца ад усіх эўрапейцаў. Згодна прызнаных Усходам і Захадам праўных умоваў выкананьня міжнародных дагавараў гэта дапушчальна і пажадана і ня лічыцца ўмешваньнем у нутраныя справы дзяржавы.

Вольныя дэмакратычныя дзяржавы павінны сваёю поўнаю палітычнаю і гаспадарчаю сілаю бараніць чалавечыя правы эўрапейцаў. Падчас усіх этапаў ажыцьцяўленьня вольнай еднасьці Эўропы, пры палітычных і гаспадарчых пастановах эўрапейскай еднасьці, трэба заўсёды мець на ўвазе дабро людзей і народаў у паняволенай частцы Эўропы.

Далей у рэзалюцыі гаворыцца, што першы этап задзіночаньня Эўропы павінен абымаць вольную частку Эўропы. Культурныя, гаспадарчыя і чалавечыя суадносіны ня могуць быць на доўгі час рэглямантаваныя дыктатурай і яе ідэалёгіяй. Усходнія эўрапейскія народы ня могуць на доўгі час заставацца жыць у бядзе і няволі. Вольныя эўрапейцы маюць надзвычайную адказнасьць адносна сваіх паняволеных суседзяў.

Эўрапейцы павінны ўзмоцненым тэмпам асыміляваць свае гаспадарчыя, сацыяльныя і жыцьцёвыя ўмовы і супольна з сваімі атлянтыцкімі саюзьнікамі хутка ажыцьцявіць вонкавую і абаронную палітыку для рэалізацыі супакою і вольнасьці.

Пасьля прыняцьця Пленумам Кангрэсу рэзалюцыяў, выступіў з прамовай Герхард Лёвэнталь, мадэратар Другое Праграмы нямецкае тэлевізіі, на тэму "Свабода, ці сацыялізм у Эўропе". Дакладчык канкрэтна выказаўся супраць сацыялізму ў Эўропе і яскрава паказаў, што сацыялізм праз эўро-камунізм вядзе да дыктатуры камунізму ў Эўропе. З Усходнім блёкам гр. Лёвэнталь раіў гаварыць "з пазыцыі сілы" і гаварыць "востра". Галоўным віноўнікам і падбухторшчыкам міжнароднага тэрарызму, казаў дакладчык, ёсьць Савецкі Саюз, які карыстаецца кубінцамі, алжырцамі і палестынцамі.

А гадз. 5-ай вечара адбылася ў касьцёле сьв. Мартына экуменічная Служба Божая для ўдзельнікаў Кангрэсу.

Увечары-ж, а гадз. 20-ай, у вялікай гарадзкой залі адбыўся ўрачысты канцэрт з удзелам аднаго з найлепшых нямецкіх хораў у ліку каля 200 чалавек і аркестры (каля 100 чалавек), а таксама салістаў. Хор, аркестра і салісты выканалі ведамы опус 136 Людвіка ван Бэтховэна "Слаўны мамэнт", які Бэтховэн скампанаваў адмыслова на адчыненьне Венскага Кангрэсу. Канцэрт быў выкананы на найвышэйшым узроўні і адказваў сучаснаму мамэнту адбыцьця новага Эўрапейскага Кангрэсу.

У нядзелю 30 красавіка 1978 г. ува ўсіх сьвятынях Фрайбурга былі адслужаныя Службы Божыя з "Малітвай за Эўропу".

У той-жа самы дзень, а гадзь. 14-ай, у гарадзкой залі з удзелам дэлегатаў Кангрэсу і шматлікіх гасьцей з усіх канцоў Эўропы, адбылася вялікая эўрапейская маніфэстацыя, падчас якое выступалі з прамовамі Міністар-Прэзыдэнт Бадэн-Вюртэмбургіі др. Г. Фільбінгер і Прэзыдэнт Пан-Эўрапейскай Вуніі.



У сваёй прамове др. Фільбінгер канкрэтна выказаўся за хрысьціянска-кансэрватыўныя мэты Пан-Эўрапейскае Вуніі ды выказаў абурэньне, што ў заключным акце Белградзкай канфэрэнцыі ня было нічога сказана аб правох чалавека. Гр. Отто Габсбург выказаўся за ўмацаваньне Эўропы, каб гэтым абараніць яе ад савецкай "гегемоннай пагрозы". Толькі еднасьць Эўропы зьнішчыць мары Масквы аб сусьветнай рэвалюцыі. Прэзыдэнт Пан-Эўрапейскае Вуніі перасьцерагаў Эўропу перад эўра-камунізмам камуністычных партыяў Францыі, Гішпаніі й Італіі. Ён казаў, што гэтыя партыі трэба разглядаць як прадаўжэньне рукі чырвонай арміі й КГБ. Прамоўца падкрэсьліў, што Пан-Эўрапейская Вунія і далей будзе імкнуцца ўключаць усходня-эўрапейскія народы ў працэс Эўрапейскага Аб'еднаньня. Абсурдальным ёсьць, казаў ён, што ў цяперашні час дэкалянізацыі Усходняя Эўропа знаходзіцца пад "зьлейшым каляніялізмам усіх часоў. Хто гаворыць сёньня аб "адпружаньні", казаў далей прамоўца, той сам сябе гіпнатызуе.

Падчас трываньня Кангрэсу з прывітальнымі словамі выступалі прадстаўнікі эўрапейскіх народаў, у тым ліку, як ужо было ўспомнена, і прадстаўнік ад беларускага народу.

Пасьля адбытай маніфэстацыі Эўрапейскай Еднасьці, у той-жа залі адбыўся Эўрапейскі Фэстываль, падчас якога выступалі ў народных вопратках, з народнымі танцамі эўрапейскія і заакіянскія аматарскія і прафэсыянальныя групы. Фэстываль трываў да позьняй ночы і паказаў прысутным гасьцям рознакаляровае эўрапейскае і заакіянскае багацьце народных танцаў.

1 травеня 1978 г. Кангрэс закончыўся адмысловай праграмай, прыгатаванай Бадэн-Вюртэмбэргскім аддзелам Пан-Эўрапейскае Вуніі.

Беларускія прадстаўнікі, сваім актыўным удзелам, унесьлі пэўны ўклад у Эўрапейскі Кангрэс, пашырылі і навязалі лучнасьці з прадстаўнікамі Вольнае Эўропы.

*С. Каліновіч.*

---

# Мэмарандум БККА

*высланы кангрэсмэнам у Вашынгтоне.*

The Honorable
Washinton, D.C. 20510

Dear Sir:

March 25, 1978 will be of great significance for American citizens of Byelorussian descent. This will be the 60th anniversary of the proclamation of independence for the Byelorussian Democratic Republic. In occupied Byelorussia, this national observance is not allowed by the Soviet Russian Government.

The following events took place in Byelorussia 60 years ago. On December 15, 1917 the First All-Byelorussian Congress assembled in Minsk. It consisted of all ethnographical territories of Byelorussia. Bolshevik-Russian delegates were in a small minority and were not able to influence the Congressional decisions. After the Congress had chosen independence for the Byelorussian State, the Soviet Russian Army dispersed this national representation.

However, on March 25, 1918 the Council of this Congress proclaimed the independence of the Byelorussian Democratic Republic. A new Byelorussian Government organized the administration in the country and started the formation of military forces, schools, cultural activity, and the revitalization of economy devastated by the war.

Ignoring the right of self-determination of nations, Soviet Russia created aictitious state, the Byelorussian Soviet Socialist Republic (BSSR) on January 1, 1919 and invaded Byelorussia with its own Red Army, and subsequently conquered most of Byelorussia. Concluding a peace treaty with Poland in Riga in 1921, the Moscow Government, without representatives from the BSSR, divided the territory of Byelorussia as follows: the BSSR was alloted a territory of six counties of the Mensk District only, with a population of approximetly 1.2 million. Poland was given approximetly 100,000 sq. km. of Byelorussia with a population of about 4.0 million. Approximately 250,000 sq. km. of Byelorussian territory with a population of over 9.0 millio was annexed directly to the Russian SFSR. In this way the Soviet Russian Government brutally suppressed the aim of the Byelorussian people for independence, and turned them into a colonial people of Soviet Russian empire. Membership of the BSSR in the USSSR, created by Moscow Government in 1922, is a mere formality used for propaganda purposes, especially abroad.

All policy of the Soviet Russian Government

 



toward Byelorussia was to exploitation of its natural resources and population. At the same time Russia tried to destroy all ethnic and cultural distinctions of Byelorussia. It strove to assimilate Byelorussians transforming them into unified Soviet Russian nation.

Soviet Russian Government, during 60 years of domination, has accomplished a great destruction of the national Byelorussian heritage. Starting in 1927 thousands of Byelorussian intelligentsia were annihilated. The main segment of Byelorussian peasantry, about 2 million, were shot or deported to the concentration camps of Siberia at the time of collectivization of agriculture. Waves of mass terror passed through Byelorussia. They annihilated a new, growing, nationally conscious generation. After Warld War 2, Russian detachments of political police, called "Smersh", investigated the entire population of Byelorussia.They They annihilated around one million "unreliable" Byelorussians.

In reality, the Soviet Russian Government uses a policy of genocide toward the Byelorussian nation. Presently it is intensifying change of city population in Byelorussia into Russian, by sending many Russlans there for permanent settlement. Simultaneously, many Byelorussians, mostly educated youth, are transferred to Siberia and other ethnic territories of the USSR.

All important position in the BSSR are held by Russians. To create a misleading impression, some Byelorussian communists are kept in the exposed places, however, without any policy making power.

The Russian language was introduced in the BSSR for use by the government, cultural institutions and schools. Only a small part of the rural schools is allowed to use the Byelorussian language.

85% of the newspapers published in BSSR are in Russian, and only some 10% in Byelorussian. The same relationship exist for magazines and literary books. All scientific and technical literature in the BSSR is printed in Russian only.

In BSSR, the schools, institutions, farms (kolkhozes), museums, libraries, cities, streets, etc., are named in honor of Russian communist and tsarist dignitaries, writers, etc.

Russians in Byelorussia are the ruling part of the population. They represent Byelorussia before foreigners, giving the false impression that Byelorussians are the same as Russians. Those Russians are organizing in the entire Byelorussia their own clubs, choirs, folklore entertainments, pushing aside Byelorussian ethnic culture.

Buildings in the BSSR are erected in typical Russian pseudo-classical style. But ancient Byelorussian buildings and monuments of independent style of architecture are destroyed.

The eastern part of Byelorussia, with cities of Smalensk, Bransk, Roslaul, Nevel, etc., annexed to the Russian SFSR, is treated as an eternal part of Russia. Nothing of Byelorussian is allowed in this part.

Despite the huge devastations and severe oppression by Russian Government, the Byelorussian people are preserving their own national character. Byelorussians fought for their independence during Warld War 1. During Warld War 2, the Second All-Byelorussian Congress convened in Mensk on June 27, 1944. This Congress annulled all ties of Byelorussia with Russia, and approved a proclamation of independence for Byelorussian Democratic Republic, according to the declaration of 1918. The Byelorussian National Guard fought for the liberation and independence of Byelorussia.

The new Constitution of the USSR, appreved in 1977, has changed nothing in the formal and real situation of Byelorussia. The new national anthem of the USSR, approved in 1977, accenuated openly the conqueror's character for the Great Russian nation in the USSR.

We are sure that in the future, when a favorable situation will appear, Byelorussians will fight again with arms in hand for their liberation from Soviet Russian colonialism.

Very respectfully yours,

*Michael Sienko*
Secretary

*John Kosiak*
President



# *ХРОНІКА*

## Угодкі Сакавіка.

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Аддзел Нью Джэрзі, сёлета ў 1978 г. сьвяткаваў Дзень Незалежнасьці Беларусі 2 красавіка ў Саўт Рывэры.

У суботу, 1 красавіка, перад будынкам Гарадзкой Управы Саўт Рывэру быў урачыста падняты Беларускі Нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. На ўрачыстасьці падняцьця сьцягу быў прысутны сам маёр гораду **Чарлз Маннiно,** сябры Управы гораду і дэлегацыя ад Беларусаў: **а. протопр. Сьвятаслаў Коўш** — настаяцель Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьвятой Еўфрасіньні, усе вучні Суботняй Школы, настаўнікі і прадстаўнікі ад мясцовых Беларускіх арганізацыяў і грамадзтва. Пасьля падняцьця сьцягу маёр гораду **Чарлэ Маннiно** ўрачыста прачытаў сваю праклямацыю перад будынкам Управы Гораду, абвяшчаючы Дзень Незалежнасьці Беларусі Беларускім Днём у цэлым горадзе Саўт Рывэр, каторую ён уручыў нашай дэлегацыі. Пасьля ўрачыстасьці падняцьця сьцягу, маёр, сябры Управы гораду і Камандант паліцыі былі запрошаны на пачастунак у Беларускі Грамадзкі Цэнтр.

У нядзелю, 2 красавіка, ужо з ранку, на ветры прыгожа разьвяваліся Беларускі й Амэрыканскі сьцягі над курганом-помнікам змагаром за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі.

А дзясятай гадзіне пачалася сьвяточная царкоўная служба ў Беларускай Праваслаўнай Царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Служыў настаяцель а. протопр. **Сьвятаслаў Коўш.** Айцец Сьвятаслаў красамоўна і чула сказаў адпаведную сьвяточную пропаведзь. Пасьля службы быў адслужаны адпаведны малебен за Беларусь і ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё за вольнасьць і незалежнасьць Бацькаўшчыны-Беларусі, пры ганаровай варце Беларускіх Вэтэранаў Саўт Рывэру, на чале з капітанам **Мікалаем Манцыводай**, з трымя сьцягамі. Асабліва было чулым і кранаючым тое, што а. Сьвятаслаў малебен чытаў па-беларуску.

А трэцяй гадзіне па палудні пачалася ўрачыстая акадэмія ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры. Сабралася поўная заля людзей. Прыгожая мастацкая выстаўка дадавала асаблівы сьвяточны настрой сьвяткаваньню.

Вэтэранскі хор пад кіраўніцтвам капітана **Віталія Цярпіцкага** прасьпяваў Амэрыканскі Нацыянальны Гымн. Адчыніў акадэмію ўступнай доўгай і чулай прамовай інжынер **Міхась Бахар,** ён-жа яе і вёў. Змястоўны рэфэрат па-ангельску напісаў настаўнік амэрыканскай сярэдняй школы сп. **Алег Коўш,** але, на вялікі жаль, ён у апошні дзень захварэў і ня змог яго прачытаць. Добра прачытаў ягоны рэфэрат у чыстай ангельскай мове настаўнік Суботняй Школы сп. **Лявон Шурак.** Прыгожы і зьмястоўны рэфэрат у беларускай мове вельмі чула, з пачуцьцим і цудоўнай дыкцыяй, прачытаў сп. **Міхась Сенька.** Маёр гораду Саўт Рывэр, **Чарлз Маннiно,** ведамы прыяцель Беларусаў гораду, сам асабіста прачытаў сваю добра напісаную праклямацыю **Дня Незалежнасьці Беларусі** і прывітаў прысутных у цёплых і прыязных словах.

Праклямацыі Дня Незалежнасьці Беларусі губэрнатарамі штатаў: Нью Джэрзі — **Брэндэн Бэрн,** Нью Ёрк — **Г;ю Кэры** і Пэнсыльвэніі — **Мільтон Шэп** прачытала студэнтка трэцяга году Ратгэрскага унівэрсытэту сп-ня **Каця Урыўская.** Віталі прысутных асабіста: асэмблімэн **Джэймс Борнгаймэр,** каўнсылмэны **Глен Бэрман і Ўолтэр Сьвідэрскі. Былі** прадстаўленыя прысутным камэндант паліцыі Саўт Рывэру, беларускага паходжаньня, **Джордж Сыракваш** і прадстаўнікі ад іншанацыянальных арганізацыяў.

Сп-ня **Каця Урыўская** прачытала прывітаньні і тэлеграмы ад сэнатараў: **Кліфорд Кэйса** (і ягоную прамову ў сэнаце, якую ён прыслаў) і **Гэррысон Ўільямс;** ад кангрэсмана **Фрэнка Тамсона,** ад асэмблімана **Джана Фраўда.**

Канфэрансье **Міхась Бахар** прачытаў прывітаньні па-беларуску ад Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады др. **Нікандра Мядзейкі,** ад начальніка галоўнага штабу Беларускага Вызвольнага Фронту палкоўніка **Д. Касмовіча** з Штутгарту, Заходняя Нямеччына, і ад іншых Беларускіх арганізацыяў.

**Каця Урыўская** прадставіла наступных вучняў Беларускай Суботняй Школы, якія прадэклямавалі беларускія вершы: **Аляксандра Шурак** — "Хай хмара павісьне" (яна-ж прайграла на піяніне "Бэтл гым оф дзе Рэпаблік). **Нона Занковіч** — "Рушымся брацьця хутчэй", **Дэбі Наумчык** — "Воля", **Каця Гайшун** — "Родная мова", і **Лена Гайшун** прыгожа прадэклямавала верш.

Ведамыя і таленавітыя, вядучыя беларускія паэты **Міхась Кавыль** і **Янка Золак** прадэклямавалі свае вершы і ўрыўкі з паэмаў.

Беларускі Вэтэранскі Хор пад кіраўніцтвам капітана **Віталія Цярпіцкага** ўдала прасьпяваў наступныя песьні: Падняты родны сьцяг дзяржавы; Ой хмелю, мой хмелю; закранаюча чароўна прасьпяваў песьню пра Нёман ведамы салісты і кіраўнік аркестры "Сланечнік" **Алекс Мартыновіч** разам з хорам; То ня дудка мая не жалейка; А у садзе рэчанька; і Сыны Беларусі — на словы **Міхася Кавыля** і музыку **Юльяна Рымко.**

Афіцыйная частка акадэміі закончылася адсьпяваньнем хорам і ўсімі прысутнымі Беларускага Нацыянальнага Гымну — **Мы выйдзем шчыльнымі радамі.**

Сьвяткаваньне закончылася супольным пачастункам.

**Міхась Бахар.**

 

**Гадавы сход.**

29 студзеня адбыўся гадавы сход парахвіян царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай. На старшыню схода быў выбраны сп. **Барыс Плескачэўскі**, на сакратара сп. **Міхась Сенька.** Агульную гадавую справаздачу здаваў старшыня Парахвіяльнага Камітэту сп. **Аляксандар Банкет,** які сказаў, што на працягу мінулага году рэгулярна адбываліся Божыя Службы ў суботы, нядзелі і ў паложаныя сьвяты, паседжаньні Парахвіяльнага К-ту адбываліся кожны месяц, парахвіяльная школа працавала добра, лік парахвіян пабольшыўся, агульны прыход выразіўся ў суме $31,262.51. Сход прайшоў на належнай вышыні і пасьля рачовых дыскусыяў быў намечаны плян працы на будучы год.

**Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр**

16 верасьня адбыўся гадавы, перавыбарчы сход сяброў Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру. Рэвізыйная Камісія сьцьвердзіла, што ўсе запісы ў касавай кнізе згаджаюцца з прыходна-расходнымі дакумантамі. Агульны даход за 1977 год быў $26,007.02. Уступаючай управе быў удзелены абсалюторыюм. У новую ўправу былі выбраны: **Жорж Наумчык** — старшыня, **Міхась Бахар** і **Юрка Арцюшэнка** — заступнікі, **Усевалад Цупрык** — сакратар, **Аляксандар Банкет** — скарбнік. У сябры ўправы былі выбраны **Віталі Цярпіцкі** і **Джым Мяжэвіч,** заступнікамі — **Надзя Арцюшэнка** і **Міхась Палюховіч.** Рэвізыйная Камісія — **Аўген Занковіч, Барыс Плескачэўскі, Сьцяпан Наумчык,** заступнікамі — **Леў Высоцкі** і **Лявон Ясеновіч.**

**Угодкі Слуцкага Паўстаньня ў Саўт Рывэр.**

У нядзелю, дня 26 лістапада 1978 г., беларусы гораду Саўт Рывэр і ваколіцы ўрачыста сьвяткавалі 58 Угодкі Гераічнага Слуцкага Паўстаньня супроць бальшавіцкага паняволеньня.

А 10-ай гадзіне раніцы ў царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай была адслужана Сьвятая Літургія, а пасьля паніхіды па загінуўшых змагарах за Вольную і Незалежную Беларусь **а. протопр. Сьвятаславам Каўшом** у саслужэньні **а. протадз. Алега Махнюка.** Падчас паніхіды ганаровую варту трымалі сябры Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў са сьцягамі — Беларускім, Вэтэранскім і Амэрыканскім. На левым баку аналоя стаяў бел-чырвона-белы вянок. У канцы паніхіды хор, пад рэгенствам кампаз. **Дзімітрыя Верасава,** ціха і працяжна прапяяў — “Вечная памяць”. Запанавала глыбокая цішыня: тыя, што маліліся аб‘ядналіся хоць у думках з тымі, што загінулі, каб жыла Маці — Беларусь: царква напоўнілася дымам пагашаных сьвечак, якія трымалі людзі падчас паніхіды. Пасьля пропаведзі і цалаваньня крыжа ўсе прысутныя перайшлі ў залю Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру, дзе адбыўся супольны абед, laджаны царкоўным сястрыцтвам.

Вянок з царквы быў зложаны на кургане, ля помніка, у памяць і гонар жаўнераў палеглых, за лепшую долю беларускага народу. Побач помніка вецер разьвяваў беларускі й амэрыканскі сьцягі.

Адразу пасьля абеду распачалася акадэмія, якую адчыніў капітан **Мікалай Манцывода,** прывітаўшы ўсіх прысутных з нагоды дня. Вэтэранскі хор прапяяў амэрыканскі нацыянальны гімн. Мінутай цішыні была ўшанована памяць палеглых жаўнераў. Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. **Віталі Цярпіцкі.** У другой частцы праграмы выступіў хор Беларускіх Вэтэранаў пад кіраўніцтвам сп. **В. Цярпіцкага,** які выканаў наступныя песьні: 1. Жалобны марш — “Сьпі пад курганам герояў” 2. Падняты родны сьцяг дзяржавы; 3. Ой ляцелі гусі; 4. А ў садзе рэчанька; 5. Марш — “Пагоня”. Акадэмія была закончана адсьпяваньнем Беларускага Гімну ўсімі прысутнымі.

**Бэлэр-Менск**

Беларускі Рэлігійна-Адпачынковы Цэнтр Бэлэр-Менск распачаў сваю працу з вікэнда 1-га ліпеня. Дзякуючы адданай і ашчаднай працы мэнэджэра **Валентыны Рагалевіч,** сэзон прайшоў з посьпехам. На працягу сэзону былі зладжаны сьвяткаваньні й імпрэзы: Дзень Беларускага Жаўнера, Дзень Беларускае Моладзі, 14-ая Спартовая Сустрэча Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Саўтрывэрскі Дзень, Фэст у чэсьць Смаленскае Іконы Божае Маці, Міжпарахвіяльны Пікнік, Дажынкі. Добра працавала дырэкцыя на чале з старшынёю **Грыгорам Арцюшэнкам.**

Саюз Беларуска-Амэрыканскай Моладзі і Беларускі Спартовы Клюб “Нёман” ладзілі 18 лютага вечар “Валентынаў”. Абед і танцы прайшлі з вялікім посьпехам На “Місс Валентынаў” была выбрана студэнтка саўтрывэрскай Гайскул **Ніна Сіцько.** Ніна ёсьць дачкою спадарства **Мікалая** і **Надзі Сіцько** ведамых з свае грамадзкай і царкоўнай працы.

У нядзелю 16 ліпеня распачалося сьвяткаваньне 20-ых угодкаў праклямацыі Тыдня Паняволеных Народаў. З гэтай нагоды адбыліся ў Нью Ёрку: у саборы сьвятога Патрыка Божая Служба, паход па Пятай авэню і канцэрт у Цэнтральным парку. У сьвяткаваньні прынялі ўдзел Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі і Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Беларускую групу ўзначальваў заст. старшыні БККА сп. **Анатоль Плескачэўскі,** які даў інтэрв’ю тэлевізыйным рэпартэрам аб лёсе Беларускага Народу, які цяпер знаходзіцца ў маскоўска-камуністычнай няволі.



# АСОТ

НЕПЭРЫЯДЫЧНЫЯ
САТЫРЫКА-ГУМАРЫСТЫЧНЫЯ
ЛІСТКІ — КАЛЮЧКІ
НА ШКАДЛІВЫЯ РУЧКІ

**Янка Золак**

## АБРАЗКІ

### ХЛЕЎНЫЯ ЖЫВЁЛЫ

Урок па прыродазнаўству ў першай клясе. Тэма: дзікія й хатнія (так напісана ў праграме — Я.З.) жывёлы.

Настаўніца паказвае малюнкі ваўка, мядзьведзя, вавёркі, ліса, зубра і пытаецца, як называецца кожная з гэтых жывёлаў. Дзеці адказваюць.

— А якія гэта жывёлы, — пытаецца настаўніца: — хатнія ці дзікія?

— Дзікія! — хорам адказваюць дзеці.

— Правільна! — хваліць настаўніца і паказвае малюнкі каня, каровы, авечкі, сьвіньні, сабакі, ката і пытаецца, як называецца кожная з гэтых жывёлаў. Дзеці адказваюць.

— А гэтыя жывёлы таксама дзікія? — пытаецца настаўніца.

— Не, ня дзікія.

— А якія? Хатнія?

— Ня ўсе хатнія, адказвае Паўлік.

— Каторыя-ж з іх хатнія? — зьдзіўлена настаўніца.

— Кот, — адказвае Паўлік.

— А конь, карова, авечка, сьвіньня? Ці-ж гэта ня хатнія жывёлы? — яшчэ больш дзівіцца настаўніца.

— Не! Гэта *хлеўныя жывёлы,* — адказвае Пятрусь.

### ПАЛЯВІНА

На ўроку па прыродазнаўству ў першай клясе. Настаўніца пытаецца ў вучняў:

— Вы ведаеце, якія расьліны растуць у гародзе?

— Морква, бручка, рэдзька, буракі, капуста, памідоры, — пералічваюць вучні.

— Добра — працягвае настаўніца. — А каб не пералічаць усіх расьлін, якія растуць ў гародзе, якім адным словам можна назваць гэтыя гародныя расьліны?

Дзеці маўчаць. Настаўніца тлумачыць:

— Усе расьліны, якія чалавек вырошчвае для свае патрэбы ў гародзе, называюцца адным словам “гародніна”. — І пасьля кароткае паўзы пытаецца: — Дык як называюцца расьліны, што растуць у гародзе?

— Гародніна, — хорам паўтараюць дзеці.

— Вельмі добра! А цяпер скажэце мне: дзе растуць яблыкі, грушы, сьлівы, вішні?

— У садзе, — хорам адказваюць дзеці.

— Так. Яблыкі, грушы, сьлівы, вішні растуць у садзе, на дрэвах. Гэта — плады садовых дрэў. А якім адным словам можна назваць усе гэтыя плады?

Дзеці маўчаць. Настаўніца тлумачыць:

— Усе плады садовых дрэў называюцца словам “садавіна”. Дык якім адным словам называюцца плады садовых дрэў?

— Садавіна, — хорам адказваюць дзеці.

— Добра, — хваліць настаўніца. — А цяпер, можа вы скажаце, якія карысныя расьліны растуць на полі?

— На полі растуць жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, проса — пералічваюць вучні.

— А якім адным, агульным словам называюцца гэтыя расьліны?

— *Палявіна,* — не задумваючыся, адказваюць дзеці.



### НЯ ЛЕЧАЦЬ, А КАЛЕЧАЦЬ

*(Камэнтары дарэгы Палікара Дзярэгы).*

Аднойчы да мяне прыйшоў знаёмы. Ён ня так даўно вырваўся з савецкай Беларусі, і пазнаёміўся я з ім зусім нядаўна. Ён —літаратар і на бацькаўшчыне займаўся перакладам (пэратлумачваньнем) твораў беларускае літаратуры на расейскую мову. Але называў ён сваю працу не пэратлумачваньнем ці перакладам, а перакладам, перакладаньнем з аднае мовы на другую, бо так у БССР пэратлумачваюць расейскае слова “перевод”.

Падчас нашае гутаркі, я папрасіў яго пэратлумачыць на расейскую мову некалькі выразаў, адвольна ўзятых мною з розных нума-

роў разэтаў "Бацькаўшчына" і "Беларус" ды з гадавіка "Запісы", што выдаецца Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (БІНіМ) у Нью Ёрку.

Вось гэтыя выразы:

1. "...знаёмыя беларускія прозьвішчы *спад* Маладэчына..." (падчыркнута ўсюды мною — П.Дз.)
2. "Цячэ *спад* Сьвятой Гары Нёман".
3. "Цячэ *з-пад* Сьвятой Гары Нёман".
4. Яська, гаспадар *спад* Вільні.
5. "Ліст *спад* шыбеніцы да беларускага народу".

Па-расейску мой знаёмы ператтлумачыў іх так:

1. ..."знакомые белорусские фамилии *убыль* Молодечно..."
2. "Течёт *скат* Святой Горы Немана".
3. "Течёт *из-под* Святой Горы Неман."
4. "Ясько, хозяин *убыль* Вильно".
5. "Письмо *скат* виселицы к белорусскому народу".

— За выключэньнем трэцяга сказу, — зазначыў я, — твой пераказ — суцэльная бязглузьдзіца: ён няправільна перадае сэнс гэтых сказаў.

— Выбачай! — запярэчыў мой знаёмы — Якое дрэва, такі й клін; які арыгінал, такі й пераклад, ці па-твойму: пераказ.

— Але-ж гэтыя сказы рэдагавалі людзі з доктарскімі тытуламі, — спрабаваў я апраўдаць сваю ацэнку ягоных пераказаў.

— Відаць, твае доктарскія тытулы ня чыталі артыкула 18-га ў 2-ім слупку на бач. 873-яй у Беларуска-рускім слоўніку, выдадзеным у 1962 г. Інстытутам Мовазнаўства імя Якуба Коласа. Ня чыталі яны, відаць, і артыкула 1-га зьнізу ў 2-ім слупку на бач. 348-ай таго-ж слоўніка, калі замест прыназоўніка ўжываюць назоўнік. А ў гэтым артыкуле якраз і даецца тлумачэньне такіх выразаў, як прыведзеныя табою "спады (ён зрабіў моцны націск на гэтым слове) Маладэчна і Вільні". А калі чыталі, але ўсё-ж пішуць па-свойму, дык я скажу: твае дактары сьвядома (ён зрабіў націск і на гэтым слове) ня лечаць, а калечаць беларускую мову.

Я толькі паціснуў плячамі.

*Палікар Дзярэга.*

## ЗЯЗЮЛЯ Й ПЕВЕНЬ

Байка.

Калі слухаць ваша ласка,
Раскажу вам быль, ня казку.

Ў нашым садзе на ігрушы
Адпачыць Зязюля села.
Каб навокал ціш парушыць,
Яна голасна запела:
"Ку-ку, ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Хто стары, ці малады,
Без запросінаў, прынукі
Палічы свае гады!"
Ў гэты час на сьметнай кучы
Певень важна пахаджаў:
Сярод сьмецьця і анучаў,
Мабыць, зернятак шукаў.
Як пачуў Зязюлі сьпевы,
Крылем хлопнуў ды — на плот.
(Узьляцець ня мог на дрэва)
І на ўвесь курыны рот:
"Як-жа хораша, як слаўна
Ты, Зязюленька, пяеш!
Гэткіх сьпеваў я ад даўна
Ўжо ня чуў. Мяне хоць рэж,
Твайго сьпеву не забуду,
Расхвалю цябе й курам.
На'т музыка з сваёй дудай
Не заграе гэтак нам."
"Як пайшло натое, браце,
Дык і я скажу у лад:
Не аднойчы з захапленьнем
Чула я тваіх рулад.
Не адна птушына Божа
Пазайздросьціць табе можа
Не маню нікольк і я:
Лепш пяеш за Салаўя!"

Ня пытайцеся, завошта
Пеўня хваліць так Зязюля.
Гэта, бачыце, адплата
За салодкую "пілюлю".

Зязюля й Певень, як на злосьць,
Сярод людзей — нярэдкі госьць.

*А. Здрок.*



# Да нашых чытачоў

Дарагія суродзічы!

Як вам, напэўна, добра ведама, часапіс "Беларуская Думка" ня мае ніякіх крыніцаў, што забясьпечвалі-б ягоны рэгулярны выхад. Адзінаю такою крыніцаю зьяўляюцца вашы дабраахвотныя ахвяры.

Дык не паскупіцеся, дарагія суродзічы, прышліце неадкладна свае шчырыя ахвяры, каб чарговы нумар часапіса мог выйсьці з друку ў 1979 годзе.

Наперад шчыра дзякуем!

Ахвяры шліце на адрас:

Mr. M. Paluchovic
c/o Bielaruskaja Dumka
15 Olchaskey Ave.
South River, N. J. 08882

